*Няхай жыве саюз рабочых і сялян!*

# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ

ДВУХТЫДНЁВЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ДАДАТАК ДА „БЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ“

| № 10—11 | 25-га сакавіка 1927 г. | № 10—11 |
| --- | --- | --- |

## ВЯСНА ІДЗЕ...

Андрэй Александровіч

Дзень чаканы,
дзень румяны,
дзень сіньвейных струн,—
дзень вясеньніх
лятуценьняў
к нам нясецца ўгрунь!

На спатканьне
звонкім раньнем
выйду ў сьвет-прастор.
Гляну, гляну
дзень вясьняны
выплыве з-за гор...

Пры дарозе
тры бярозы,
тры бярозы ў рад—

Дзень вясновы
шчырым словам
клічуць на пасад.

Цёмнасіняй
злоснай плыняй
мчыцца-рвецца лёд.
Сонца спаліць
і бяз жалю
срэбраны сумёт...

Дзень вясеньніх
лятуценьняў
к нам нясецца ўгрунь!
Выйду, гляну:—
дзень жаданы
дзень сіньвейных струн...



**Дзьвіна на прадвесьні.**

Малюнак Валенціна Воўкава, які з 1920 году асабліва ўважліва адбі[illegible] твор-часьці прыроду Паўночна-Усходняй Беларусі.

# Бадзёрая песьня

Алесь Звонак

Ад канца да канца, ад краю да краю
На бялявых палёх ды вятры гуляюць...

Празьвінеў, прашумеў навальнічны сполах
І разьнесьлі вятры водгукі па полю...

І ля хат тапалі не раняюць сьлёзы,
Ня сумуюць крыжы болей пры дарозе.

Па другому жывём, па другому любім
І сьпяваем інакш пра каханьне любым...

...Край ня ведае больш ні пакут, ні згубы
І цалуе зару ў вішнёвыя губы...

Ах, і сам я другі, ах і сам інакшы
Маладосьцю хмяльны, п'ян вясною нашай...

І бадзёрасьць ў душы, і бадзёрасьць у целе
Дзе вы чорныя дні?—Змоўклі, адзьвінелі...

Маладосьць ты мая, друг мой неспакойны!..
Праляціш, празьвініш, як ліхія коні...

Ў кудрах чорных тады срэбра забялее
І агонь у вачох згасьне, пашарэе.

Гэта будзе ці не—знаю ды ня знаю,
А пакуль—хмель і шум неразлучны з намі.

Зазьвіні зашумі маіх дум вясновасьць!..
Я сягоньня—другі, я сягоньня—новы!..

Смутак, радасьць, жыцьцё поўным кубкам
выпʼю
І пачуцьці й душу да астачы выпяю.

...Ад канца да канца, ад краю да краю
Хай гуляюць вятры, хай вятры сьпяваюць...

Ды сьпяваюць вятры, ды ў барох хваёвых
І ў соснах зьвіняць залатыя словы...

# Ліст у вёску.

Пятро Глебка.

Мігцелі сьценямі і дагаралі зоры,
ачнуўся я ад зблытаных разваг:
бы ў навальніцу чорную у хвалях мора,—
хвалюецца ў думах галава.

А думы?.. Што яны гавораць,
калі ў песьні торгаюць душу?!
Зіма за вокнамі, на вокнах-жа
ўзоры
і я ў вёску зноўку ліст пішу.

* *
*

Дзень добры, любыя! Дзень добры!..
Ну, як у вас зіма, якія маразы?
У нас сьнягі-аж клёны горбяць,
на вуліцах скаголяць палазы!

Я думаю—у вас ня меншыя завеі
і розьніцы амаль ніякае няма:
у нас карункамі драты сівеюць,
у вас-жа лес бялее, як туман.

Ды толькі лес зімою не гамоніць,
а ціха думае, спусьціўшы галаву,
а ў нас электростанцыя—
і дні, і ночы звоніць,
а раніцай гудкі ўздымаюць гул.

У вечары і зноў—ня падаем мы
ніцам:
захочам зор—запалім ліхтары.
У вас маёвая, вячэрняя зарніца
такім сьвятлом ніколі не гарыць.

Усё-ж радзімыя, далёкія і дарагія,
лясом асьнежаным я шлю паклон.
Настануць дні і там другія:
зара-электрыка засьвеціць пад акном.

Не дарам я хачу й сваволю,
каб сноп аўса з снапом электрыкі
зьвянчаць—
і вось тады ня будзе ў сэрцы болю
пра будучыну, краіну і дзяўчат.

Цяпер-жа хоць зіма, сьнягі, завеі—
мяне не страшыць гэта жудзь!
Я вам усім суседзі—дабрадзеі
пра ўсё жыцьцё у песьні раскажу.

Вы помніце, а мне і не забыцца,
калі пакінуў я радзімае сяло.
Лісты апалыя і хвойныя іглiцы
вятрамі восені ў полі замяло.

Казалі многія—суседзі і ня суседзі:
—жылі бяз граматы ўвесь свой век
дзяды і прадзеды, таксама дзеці..
А ён?!. Ну, што-ж, загіне чалавек.

І нават родныя ня верылі, казалі:
—дарэмна, сынку, кідаеш саху,—
а маці любая гарачымі сьлязамі
расіла сьцежачкі ў полі і ў садку.

Таго ня выкажаш ні словам, а ні зір-
кам,
што сэрца горкасьцю паліла, бы палын.
Правеў стары, у ветрах зыркіх
прамовіў здушана: Ідзі... адзін...

Вятры галёкалі асеньняю навалай,
здалёку глянуў я кудысьці ў сінь:
стаіць стары без шапкі; быццам
хвалі,
у ветрах стогнуць сівыя валасы.

Нямее кроў, нямеюць словы,
а на шляху бярозы нікнуць далавах,
—Ой дарагія, любыя дубровы,
дзе зьляжа русая ў цьвеце галава?

Шляхі маўчаць, галёкаюць бярозы,
адказу ўсё... няма... няма...
І падалі, і падалі сьняжынкі-сьлёзы,
і падалі, і падалі на твань.

Ах моладасьць! У наквецях надзеі...
Хто ў дваццаць год тарнуе крок?!
Успомніў я крывавыя падзеі
і ў жылах зноў запульсавала кроў.

Напорна йшоў, ішоў да мэты;
надзеі з наквеці так буйна зацьвілі;
прайшла зіма, мінула лета,
сьнягі ізноў бялеюць на зямлі.

Тады спаткаў белявую дзяўчыну
і песьні вольныя пра любую складаў.
Занылa сэрца... З якой прычыны?
Цяпер я ведаю, цяпер я разгадаў.

Спаткаў яе, спаткаў у горадзе,
яна таварышам ня хоча быць,
яна ня ведае зімуе гора дзе,
ня ведае чаму згінающца дубы.

А я спазнаў, бо гадаваўся ў горы,
а я спазнаў, бо вырас каля ліп.
Таму зямлю хачу ўсеяць зорамі,
каб васількі па іншаму цьвілі.

Не як таварыша яна мяне спаткала,
на што-ж былі занізі кволых слоў.
У іншай постаці перада мною стала
далёкае, радзімае сяло.

Вясною там зацьвітаюць палеткі,
забыўся я, растраціў гэты цьвет.
А маці там жнучы ўлетку
гадае, думае сыночак дзе.

Даруйце, любыя; даруй, матуля!
Я ведаю – ты ўспомніла ня раз,
што мо' нашу нямытую кашулю,
і мо' зусім забыў пра вас.

Я ведаю, што ты ня раз сьлязою,
калі зьбяруцца ўсе ў сьвяточны дзень,
мяне ўспомніш і перад табою
мая пяройдзе постаць-сьцень.

Шкадуеш ты, што сын далёка,
ці скора вернецца, гадаеш, у сяло,
Сьлязінка коціцца крыштальная на
вокy—
самотна схілішся і хрысьціш лоб.

Ах не, ах не!.. Ну, як забыцца
сваё сяло, палеткі і лугі?!
Я вось пішу і чую як крыніца
вадою звоніць, цалуе берагі.

Матулька, родная матулька, дарагая,
ня плач, ня плач,—маўкліва ня
тужы:
маё жыцьцё—яшчэ не дагарае,
я доўга, доўга буду жыць.

Ты выбачай, што радасьць дзён і ночы
я аддаваў за русую касу,
за смуглы твар і глыбіню ў вочах,
а сам насіў у сэрцы сум.

Ці мо' за тым, што на вазёрах
колер
сіней ўсякай морскай глыбіні?
Ці мо' за тым, што на беларускім
полі
цьвілі ў жытох вясною васількі?

Я сам ня ведаю, адкуль такая любасьць
да русых кос, да сінь-вачэй...
Казалі многія, што ў гэтым мая згуба;
казалі многія, а сэрцу—не лягчэй.

Ня веру я, ня веру ў адцьвітаньне
і не кажу, што ня цьвіце сяло.
Было ў нас апошняе спатканьне
такое ціхае, маўклівае, бяз слоў...

Таму пішу ізноў у вёску;
не здрадзіў ёй, не здраджу заўсягды:
калі зацьвітаюць сялянскія палоскі,
прыеду я, прыеду я туды.

Ды толькі вось, браточак дарагі,
скажы на што ў вас палосы, межы?
Я ня люблю, калі сьціскаюць бе-
рагі—
люблю прастор, люблю бязьмежжа.

І ты, матулька, не глядзі ўвысь:
нашто нам тыя шоўкавыя зоры,
калі такое шчасьце для жывых
на гэтых вольных вось прасторах!

Люблю я горад, бо тут інакш
жыцьцё ідзе: ідзе ў змаганьні,
а ўсё-ж, вясковыя, я родны, ваш
і шлю ўсім сваё вам прывітаньне.

Не дарам я хачу й сваволю,
каб сноп аўса з снапом электрыкі зьвян-
чаць,—
і вось тады ня будзе ў сэрцы болю
пра будучыну, краіну і дзяўчат.

* * *

Міргала сьценямі і дагарэла сьвечка,
закончан ліст, сяджу адзін...
І раптам, здушана, працяжна-рэдка,
гадзіньнік б'е аж пяць гадзін.

# Ліст з вёскі

Максім Лужанін

Добры вечар, дружа дарагі!
Добры вечар!
Ціхі ясны вечар!
У сінім моры нікнуць берагі
Ціха яркнуць зоравыя сьвечы.
Я сягоньня цэлы дзень касіў,
асьмылелі рукі ад утомы,
а цяпер у водарную сінь
Грамадою з песьнямі дадому.
Сонца лапай гладзіць валасы
(колькі сонца ў полі маладога):
і прыветна звоняць каласы,
звоняць нешта смутна дарагое.
Вось цяпер сяджу, пішу лісты
заўтра зноў на звонкія пакосы...
сьветлым думкам трэба зацьвісьці
адшаптацца ў шоўкавыя косы.
Сіні вечар. Думы і раса.
Сенажаці пахкі водар.
Ноч нясе квітнеючы пасаг—
ціхую, пунсовую пагоду.
Сіні, сіні! Засьцяць цэлы сьвет!
Галава мая—убор туманаў.
Край нябёс ружовы лёгкі сьлед
вуснамі на тварыку румяным.
І нішто мне не хвалюе кроў,
толькі зор дрыжаць маўклівей
вочы...

Ты ня знаеш слуцкіх вечароў,
ты ня знаеш тонкастанных
ночак!.

# З Рабіндраната Тагора*)

* * *

Кожны дзень ён прыходзіць і ўходзіць.

Ідзі, дружа, дай яму кветку з маіх валасоў.

Калі ён спытае хто паслаў яе, я прашу цябе, не кажы майго імені—бо ён толькі прыходзіць і ўходзіць назад.

Ён сядзіць на зямлі пад дрэвам.

Раскінь тамака посьцілку з красак і лісьця, мой дружа.

Яго вочы сумуюць і свой сум перадаюць майму сэрцу.

Ён ня кажа, што ў яго на душы, ён толькі прыходзіць і ўходзіць назад.

* * *

Чаму ўзяў ён у звычай, малады вандроўнік, прыходзіць пад мае дзьверы на зары?

Кожны раз, калі я прыходжу і выходжу, я праходжу міма яго і яго твар вабіць мае вочы.

Я ня ведаю гаварыць мне з ім, ці маўчаць.

Чаму ўзяў ён у звычай прыходзіць пад мае дзьверы?

Ліпнёвая ноч цёмная і хмарная; неба блакітнае ўвосень, веснавыя дні непакояцца паўднёвым ветрам.

Яго песьні хвалююцца кожны раз новай мэлёдыяй.

Я спыніў сваю працу, мае вочы заліліся мглой.

Чаму ўзяў ёну звычай прыходзіць пад мае дзьверы?

* * *

Не хавай тайны сэрца, мой дружа!

Раскажы яе мне, толькі мне, па сакрэту.

Ты, які так прыемна ўсьміхаешся, ты, які гэтак пяшчотна шапочаш.

Маё сэрца пачуе яе, але вушы ніколі.

Цёмная ночка, у хаце маўкліва, гнёзды птушак ахутаны сном.

Праз хваляваньне сьлёз, праз дрыжыкі ўсьмешкі, праз сарамлівасьць і журбу раскажы мне таемнасьць твайго сэрца.

* * *

Гамані са мной, мая любая! Раскажы мне аб чым ты пяеш.

Хмурыцца ноч. Зоркі згубіліся ў хмарах. Вецер уздыхае праз лісьцё.

Хай разблытаюцца мае валасы. Мая сіняя вопратка абаўецца вакол мяне, як ноч. Я прыцісну тваю галаву да сваіх грудзей і ты ціха сьпявай у салодкай адзіноце на маім сэрцы.

Я буду слухаць заплюшчыўшы вочы. Я ня буду глядзець табе ў твар.

Калі ты скончыш свае словы мы сядзецьмем ціха й маўкліва. Толькі дрэвы будуць шапацець у цемені.

*) Рабіндранат Тагор—найбольшы сучасны поэт і пісьменьнік Індыі.

Ноч парадзее. Пачне сьвітаць. Мы зірнем у вочы адзін аднаму і разойдземся па розных сьцежках.

Гамані са мной, мая любая! Раскажы мне, аб чым ты пяеш.

* * *

— Павер каханьню, нават калі яно прыносіць смутак.

Не адхіляй свайго сэрца.

— Ой, не, мой дружа, я не магу зразумець твае цьмяныя словы.

— Мая любая, сэрца толькі затым, каб аддаць яго ў сьлёзах ці ў песьні.

— Ой, не, мой дружа, я не магу зразумець твае цьмяныя словы.

— Шчасьце нядоўгае, як кропля расы, яно паміраe ў той час, як сьмяецца. Але смутак, ён моцны і доўгі. Хай сумнае каханьне прачнецца ў тваіх вачох. – Ой не, мой дружа, я не магу зразумець твае цьмяныя словы.

— Лотас красуе ў праменьнях сонца і губіць усё, што мае. Ён ня хоча застацца ў бутоне ў бясконцы зімовы туман.

— Ой не, мой дружа, я не магу зразумець твае цьмяныя словы.

* * *

Ты, вячэрняя хмарка, што плавае ў небе маіх лятуценьняў.

Жаданьнямі свайго каханьня я вечна ўпрыгожваю цябе.

Ты мая ўласная, ты мая ўласная, ты жывеш у маіх бязьмежных лятуценьнях!

Твае ногі ружова-чырвоныя ад бляску хаценьня майго сэрца. Жнейка маіх вячэрніх песень!

Твае губы сталі горка-салодкімі, пакаштаваўшы віна мае журбы.

Ты мая ўласная, ты мая ўласная, ты жывеш ў маіх адзінокіх лятуценьнях!

Ценем свае палкасьці я зацямніў твой погляд. Госьць глыбыні маіх вачэй!

Я злавіў і акутаў цябе, мая любая, у сеці свае музыкі.

Ты мая ўласная, ты мая ўласная, ты жывеш у маіх няўміручых лятуценьнях!

* * *

Маё сэрца, дзікая птушка, знайшла сабе неба ў тваіх вачох.

Яны калыска раніцы, яны краіны, дзе пануюць зоркі.

Мае песьні згубіліся ў іх глыбыні.

І мне толькі-б лунаць ў гэтым небе, у яго адзінокай бязьмежнасьці.

Мне толькі-б расьсекці яго хмары і распасьцерці крыльлі ў сонечным зьяньні.

* * *

Я ўспамінаю дзень з свайго дзяцінства, калі я карабелік з паперы пускаў на ваду ў канаве.

Гэта быў мокры ліпнёвы дзень, я быў адзін, але шчасьлівы сваёй гульнёй.

Я пускаў на ваду ў канаве карабелік з паперы.

Але раптам згусьціліся навальнічныя хмары, наляцеў парывісты вецер і струменямі паліўся дождж.

Паліліся цуркі мутнае вады, яны залілі раўчук і затапілі мой карабелік.

Маркотна я думаў, што навальніца прышла затым, каб разьбіць маё шчасьце; уся яе злосьць была накіравана проці мяне.

Хмарны ліпнёвы дзень даўгім здаецца сягоньня. Я перадумаў пра ўсе тыя гульні жыцьця ў якіх я цярпеў няўдачу.

Я лаяў свой лёс за тое, што ён шмат разоў жартаваў са мною, і раптам я ўспомніў карабелік з паперы, які патануў у канаве.

* * *

Бясконцае шчасьце не тваё, мая цярплівая і змрочная маці зямля!

Ты працуеш каб напоўніць раты тваіх дзяцей, але яды не хапае.

Дар радасьці, які ты маеш для нас, ніколі не бывае дасканалым.

Крохкія тыя цацкі, што робіш ты сваім дзецям. Ты ня можаш здаволіць усе нашы галодныя надзеі, але ці павінен я за гэта пакінуць цябе?

Твая ўсьмешка зацянёная журбою прыемна для маіх вачэй.

Тваё каханьне, што ня ведае спаўненьня дорага майму сэрцу.

Ты накарміла нас з сваіх грудзей жыцьцём, а не неўміручасьцю і вось за гэтым твае вочы ніколі ня сьпяць.

Твае стварэньні хараства пакрыты мглою сьлёзаў.

Мае песьні пальлюцца ў тваё немае сэрца і маё каханьне зьліецца з тваім.

Я ўшаную цябе працай.

Я бачыў твой пяшчотны твар і люблю твой маркотны прах, Маці Зямля.

*Пераклаў з ангельскае мовы А. Л.*

# З нізкі вершаў

*„Вясковыя мэлёды“*

I

Ізноў я там, дзе пад акном тры клёны,
Галіны сьнежныя схілілі на карніз...
Дзе я ў цішы пад шум вясны зялёнай
Ў дакорах радасьці правёў дзяцінства дні.
Дзе я адзін, як ў сьвеце падарожнік,
Сьлязьмі балючымі параніў думы-сны.
Таму цяпер мяне не патрывожаць,
Былыя роспачы з усьмешкамі вясны.
Таму што больш не разьлюбіць ніколі,
Таго, чым сэрца некалі жыло.
Там чорнабыль... Вятры шумяць у полі
І дрэмле ў наквеці далёкае сяло.
Сяло!.. Сяло!.. А за сялом прасторы...
На ставах сочацца апошнія сьнягі.
Аддам я ўсё за ясна-цьвет і зоры, —
За любы край, так сэрцу дарагі!..
Аддам жыцьцё і лепшыя хвіліны.
(Бо ўсё-ж яны ня вечныя ў жыцьці!)
Каб шчыры сьмех і моладасьць краіны,
Шыпшынай дзікаю не адцьвілі ў трысьці!
Каб сьмех і сум на летацьвет апалі,—
Апалі зорамі... Сплялі жывы вянок!..
Таму цяпер аб бераг б'юцца хвалі,—
Калышуць хвілямі душы марское дно.
Таму цяпер я мару і дзіўлюся.
Дзіўлюся ў ростані на агняцьвет нізін.
Там зоры ясныя гараць над Беларусьсю,
І асыпаюцца ў золатацьвет калін.
Там сонцаквет... А на гары пасёлкі,—
Майдан калышацца ва ўсьмешках лебяды.
Ідзеш на сход з сястрою—комсамолкай,
І апяваеш ёй заводы... гарады...
Бо знаю сам, не адкрасуюць кветы,—
Як долу ўсьцелюцца на травах верасы.
На вошта плач!.. На вошта плач поэту!..
Хоць думы падаюць у верасень красы.
Прайдуць гады... Забудуцца надзеі...
Там рутай-мятаю шляхі пазарастуць.
Дык вось чаму ў душы гараць надзеі,
І рассыпаюцца золатацьветам дум.
Дык вось чаму па-за вакном тры клёны,
Галіны сьнежныя схілілі на карніз...
Дзе я адзін, пад шум вясны зялёнай.
У смутку й радасьці правёў дзяцінства дні.

II

Зіма... І золкія завеі...
Дарогі сьнегам замяло.
Таполі ў наквеці сівеюць,—
І нікнуць бомы за сялом.
Як здані белыя бярозы.
Да болю журацца ў прастор.
На іх сузорныя марозы,—
Чароўны выткалі узор.
Нямая бель... Гаі... Дубровы..
Маўчаць за возерам стагі,
Згубілі вербы каляровасьць,
А там... сьнягі... сьнягі... сьнягі...
Які прастор!.. Ў прасторы іней...
Я сам ня ведаю чаму?
Люблю асьнежныя раўніны.
І беларускую зіму!..
Зіма!.. Зіма!.. Ў палёх туманы...
Нэрвова плачуць палазы.
Бялеюць сонныя паляны,
Ў завеях дзікае красы.
Ў далінах ноч... Імчацца коні...
А бомы ўсхліпваюць да сьлёз.
Ў такім асьнежаным разгоне,
Ня страшны замяці й мароз!..
Ня сьпі хурман!.. Сьпявай „каліну!..“
(Там скора хутар за сялом).
Я ўспомню любую дзяўчыну,
І вочы чорныя бяз слоў!..
Ах, вочы... вочы!.. што за вочы!..
Такіх вачэй ты і ня сьніў.
Заглянеш раз... Заглянеш двойчы...
І погляд згасьне ў глыбіні...
На дне, дзе сьлёзы сьнегавыя,
Як чыстай моладасьці сьмех,
Як зоры смугла-залатыя,
Ў дакорах сыплюцца на сьнег.
Бы зоры гаснуць... дагараюць...
Пад кволай наквецьцю брывей...
Кармэн-цыганка маладая!..—
Ня знаў я гэтакіх вачэй!..
Ах, вочы... вочы!.. Што за вочы!.
Пад сьмехам палкія ў іх сны.
Цыганскай гордасьці дзявочай,
Да краю поўныя яны!..
Ў іх знойдзеш сум... Ў іх знойдзеш думы...
Загубіш плач!.. Адчуеш сьмех!..
Я ў тых вачох глыбока-ўдумных
Каханьня тайну зразумеў!
Я зразумеў... Таму й дзіўлюся,
Што ў сьнежнай наквеці душы.
Ніколі сэрца ня прымусіш,
Красу і гордасьць патушыць!..

. . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . .

У далінах ноч... Імчацца коні...
А бомы ўсхліпваюцць да сьлёз.
—Ня сьпі хурман!.. Ў такім разгоне,—
Ня страшны замяці й мароз!..



Агульны выгляд беларускае кніжнае выстаўкі ў крэмлеўскім палацы.

## Беларуская кніжная выстаўка ў Крэмлі

14 лютага г. г. была адчынена III сэсія Саюзнага Цэнтр. Выканаўчага Камітэту, на якой першым пытаньнем стаяў даклад Ураду БССР. Пасяджэньні адбываліся ў былым царскім палацы ў Крэмлі. (Крэмль—гэта старая частка Масквы, абведзеная высокаю сьцяною). У часе сэсіі там была адчынена выстаўка беларускае кнігі, а гэтак сама фотографіі прац па асушцы балот і табліц, якія даюць уяўленьне аб гаспадарчым росьце Беларусі. У вялізарнай белай залі з залачонымі дзьвярыма кідалася зразу ў вочы чырвоная стужка з надпісамі: „Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка". Дэлегаты і госьці ў часе перапынку паміж пасяджэньнямі стаялі грамадкамі каля кніг і фотографій. І якіх толькі там народаў ня было! І з поўдня, і з паўночы, з усходу. Там халат башкіра, вышытая ярмолачка татарына, сьвітка з патронамі на грудзёх чаркеса, а там вайлакі селяніна з Кастрамы. Цікавіліся яны, як гэта Беларусь адбудоўвае і паляпшае сваю гаспадарку, якія друкуюцца кніжкі і г. д. Корэспондэнты замежных газэт з алоўкамі і кніжкамі ў руках прыглядаліся, распытваліся, запісвалі. Некаторыя куплялі беларускія кнігі. Вось з далёкага Сібіру, з тэй краіны, дзе балот шмат, дзявіцца на працы па асушэньню і гаворыць, што ў іх яшчэ нічога гэтага няма, толькі яшчэ прыбіраюцца рабіць. Пра Савецкую Беларусь у тыя дні шмат даведаліся ўсе народы нашага Саюзу, даведаліся аб дасягненьнях Савецкае Беларусі. У газэтах зьявілася шмат артыкулаў, **якія расказалі ўсім чытаючым працоўным Саюзу аб нашай працы, аб будаўніцтве** соцыялізму ў Беларусі.

На нашай фотографіі зьняты агульны від кніжнае беларускае выстаўкі.

**Б.**

# Пад соснамі.

**Васіль Каваль.**

Ноч і цемень...

Па шляху йдзе трое людзей: дзьве цёмныя цені рушаць наперадзі, роўна цялёпкаючыся ў гразі, адзадзі йдзе пахілая, сагнутая цень. Гэтыя двое з вясковага „начальства":ураднік—тоўсты, абрузлы, з сівымі вусамі ды шашкай збоку—і стараста Макей—маленькі, юркі, жоўта-бароды чалавек. Вядуць яны ў воласьць за тры вярсты свайго аднавяскоўца Максіма Холада к земскаму за „злачынства". Халодна ім, ад таго злы на Максіма, бо ён прычына гэтага, а ці скрозь ноч ня хочацца. Цёмнай засталася з-заду вёска...

Абапал дарогі павольна калышуцца лазовыя кусты, пад нагамі мокрае лісьце з дрэў. Пад адкосам гарыць вогнішча, мусіць, падарожнікі застанаваліся, толькі яно сьвеціць сярод агульнай цемнаты; хоча і няхоча гарэць яно, патухне і зноў уздыміцца кверху. Сядзяць людзі ды грэюцца, адпрэжаныя коні хрумсаюць мокрую траву, Маўчаць, людзі, гавораць пружыць сон, а людзям падарожнікам усё роўна. Сонна паглядзелі яны на траіх людзей, падумалі:

— „Куды гэта яны йдуць?.."

Крыўда ў максіма моцная крыўда, якая не паддаецца ніякім развагам...

„На вошта вініць усіх людзей?—нарэшце, вынікае вострая думка,—можа яны й нявінаваты?"

„А хто іх ведае?"

Боль крышыць сэрца на гэтых двух здаволеных сабою і ўсім людзей -урадніка і старасту. Вядуць яго за правінку: „не падчыніўся ўласьцям", не заплаціў у вызначаны тэрмін падатку.

„А з чаго ўзяць?"

Перад вечарам было: апошняга хворага каня хацелі вывесьці за падатак. Відавочна стаіць згорбленая хатка, плачыць жонка з дзецьмі. І ў чалавека, які спрадвеку схіляў галаву перад начальствам, які ўсё спаўняў,—узьняўся бунт.

— Не аддам каня... Гэта-ж маё кроўнае... З чым-жа застануся?..

І галасіла жонка на ўсю вуліцу ды так, што сышліся гурбою людзі, стаялі, спачуваючы ім, а злосны стараста—Макей, падбухторыў урадніка:

— Павядзём яго к земскаму, той разьбярэ...

Павялі...

. Трусіць дробны-дробны дождж, шушукае па зямлі, прабірае праз сьвітку за сэрца. Хочацца Максіму драмаць, ці легчы ды соладка так заснуць, хоць-бы тут, на дажджы. Іці разам не пасьпявае Максім, ноч перад гэтым ня спаў...

— Не адставаць!—грозіцца ўраднік.

Умеў гаварыць, умей і адказваць!—папярэджвае са скрытай воўчай злосьцю стараста Макей, і Максім бачыць, што вочы ў яго, як вуглі...

Максіму нічога ня хочацца казаць: от іці-б цяпер аднаму,• думаць, а то пайці к вогнішчу падарожнікаў, расказаць там чужым людзём крыўду, каб спачулі яму, каб самі спазналі, што вялікая няпраўда на сьвеце ёсьць...

І Максім гаворыць млява:

— Ат, гаворка мая, мой і адказ—справа ня ваша!

— Як гэта ня наша?—Абчэсьцьвеннае дзела...

Застанаўліваецца Макей, тупае ботамі, а вочы ў яго гараць...

— Ведаю, як вы для вобчаства... Ці-ж, хто з вас думае аб гэтым? Ці вы беднага чалавека можаце разумець?.. Рады вы скуру садраць з жывога чалавека, раздавіць яго ў блін...

— Ты змоўкні!..—вяла кажа ўраднік. Дзела гэта мы як сьлед разьбяром, па чыстай праўдзе...

— Праўда тут, каб яна спарахнела!..

Ураднік соладка пазяхае, юркі стараста Макей дружацкі гаворыць з ім, а Максім нічога чуць ня хоча.

Шкода і крыўдна чалавеку, што йдзе ён супроць начы. Холадна і голадна. Там яшчэ больш пакрыўдзяць яго, устрывожаць, насьмяюцца ды пасодзяць у адсідку на год...

„Што я зрабіў старасту?—нехаця раз важае Максім,—ну, ён багаты,—няхай сабе!—ніхто-ж не бярэ ад яго...

І помніць.

На сходзе раз выказаўся ў грамадзе супроць; з таго часу й нясе помсту злы чалавек...

„Ат, няхай сабе!"

Стараста Макей гаворыць да ўрадніка:

— Па-арадкі, Ільля Хвёдаравіч, ня слухаюць свае людзі. Хочаш ім дабра, а яны проці цябе...

— Гм... та-ак! Распушчаны народ, скажу табе...

Ня першы раз водзіць такіх людзей урадпік: усё яны зьмяшаліся ў адзін колер, пацямнелі, сталі для яго аднолькавымі: злодзей які, вялікі злачынца ці „політычны“—усё роўна...

Чарнеецца будынак воласьці. Гарыць агонь. Закашляўся Максім, а ўраднік выцер далоньню вусы...

Людзі маўчалі...

Ноч і цемень...

II

— Прывялі яго?—спытаў голас з глыбіні валаснога пакою.

— Ёсьць, гаспадзін земскі!..

— Т-так точна!

— Вядзіце яго сюды!—прыказаў той-жа голас.

Голас у Макея ў валасным пакоі хрыпла дрыжыць, голас урадніка жарсткаваты, млявы..

Маўчыць Максім...

Душна і нязвычайна балюча рэжуць ногі аборы.

Абапёршыся ў крэсла—з чорнай бародкай і ў аксамітнай сарочцы—з маладым пісарам сядзіць земскі, пазёўвае, стукае белымі пальцамі па краю стала.

Гаворыць мякка і зло:

— Ну, Максім Холад, раскажы сваю справу...

Няма слоў у Максіма, ня хочацца нічога гаварыць, глядзіць ён на ўсіх мутнымі вачыма і нікога ня бачыць, плыве прыбраны пакой, ідзе сон...

А земскі сьцяў зубы, крычыць:

— Бунтаваць... мужычче... скоты!.. Заганю ў Сібір, зьвяр'ё вы...

— „Зьвер!“—ціха шаволіць губамі злачынца—Максім.

— Вінават?—гавары!..

„Што ім казаць?“

Максім думае: расказаць аб тым, што жыве ён бедна, што хворы ён чалавек, што ніколі ў жыцьці ня супярэчыў начальству, а цяпер выпадак такі: здохла ў яго карова, конь чуць ходзіць пад восень, і нечым яму заплаціць падатку. Сказаць-бы аб тым, што злы на яго стараста Макей, ён усяму прычына,—ды ня будуць слухаць яго... Адзін у Максіма сын, ды на вайне з „гарманцам“ ваюе, а як быў сын, усё плацілі спраўна.

— Ня вінен я, ваша благародзьдзе!..

— Гаспадзін земскі!—адзываецца бойка стараста,—ён абразіў мяне пры ўсім вобчастве, зганьбіў...

— Ты што скажаш?..

— Што я скажу?.. Сын у мяне быў. Ласкавы былі к начальству і спраўны... Паверце мне,—стукае Максім кулаком у грудзі,—шкода мне было. З чым-жа я застануся... конь хворы, хата ад дажджу разбурылася... сілы няма..

Тады земскі пытае:

— А ты ведаеш законы?.. К тэрміну павінен выплаціць..

Земскі расчыняе справу за 1914 год, піша, нудна скрыпіць асадкай..,

Гавораць між сабою стараста, ураднік і земскі, а Максім нічога ня чуе, не адказвае. Раптам, земскі стукнуў моцна, грозна кулаком і задрыжэлі ў яго сківіцы...

— Пасадзіць яго ў „халодную“..

Максім, асьцярожна тупаючы нагамі, пашоў за старастам і ўраднікам на двор, у адсідку... Дзьверы загрымелі жалезам, увайшлі. Чуць відно ваконца і там жалезныя краты. Шмат з мужыкоў тут сядзела, а Максім ні разу ня быў... Незачым патрэбным вышаў на двор ураднік, пад нагамі ў яго хлюпцела вада і звонак быў кашаль. Нічога не гаварыў стараста Макей, ад гэтага сумна стала Максіму. „Хоць-бы ён адно слова сказаў?—думаў, ды нешта галава балела, нешта ногі дрыжэлі. Стараста, аступіўшыся на сьлізкай падлозе, таўхнуў плячом Максіма... У цёмным, глухім пакоі было толькі двое іх. Раптоўна, к Максіму прышоў бадзёры і злы настрой: успомніў усё як было і перажыў гэта... Халодная рука, абцягваючы сарочку, нашчупала складаны ножык, які звычайна насіў на поясе з тытуном...

— „Што гэта?“

І яшчэ раз злосьць забрала ціхага чалавека; прыхіліўся к сьцяне, хвіліну падумаў. Потым, сударгава расклаў нож, дрыжэла рука, стараста Макей ішоў к дзьвярам...

Парушылася цішыня, слаба ўскрыкнуў стараста, хваціўся за жывот і пакаціўся па падлозе. Максім, як злодзей, выкраўся з дзьвярэй...

Сэрца стукае, а ў грудзёх дыхавіца...

III

Дышыць зямля халодным подыхам. Вецер чуць датыркаецца да верхалін прыдарожных дрэў. На небе ўжо зьявілася некалькі цьмяных зорак...

Максім бяжыць...

Нахіліўся наперад стан, падкашваюцца ногі, здаецца,—дрыжыць зямля, вархалам пашло, закружылася ў вачох.

Думка—востры нож, ня дае спачыну:

— „Гэта-ж я чалавека забіў!..“

Сьвеціць вогнішча падарожнікаў, людзі сьпяць мусіць. Патрэбна перайці цераз рэчку—сьлізкая кладка, няможна ступіць нагою, а ісьці патрэбна: бо за ім гоняцца, там сабака брэша, людзі крычаць...

— За-абойца-а!..

Гудзіць звон працяжна, за горла душыць, а можа то лісты гамоняць?

— За-абойца-а!..

Абрасілася сьвітка, як стопудовы камень вісіць на плячах. Хочацца скінуць яе і няможна, прыціснула яна, як зямля к себе чалавека прыгарнула. Бяжыць Максім к падарожнікам-чужым людзём, ходзяць яны каля вогнішча і глядзяць на незнаемага чалавека, які ў глухую ноч бяжыць полем, як звар'яцелы... Вогнішча на дзесяць крокаў...

— Што ты за чалавек?—пытаецца доўгі барадаты мужык.

Валіцца Максім жыватом на прыгрэтую зямлю, ёрзае, ірве клоччамі валасы, пляча дзяцінымі сьлязамі, просіцькаецца перад людзьмі:

— Лю-юдзі!.. Бра-а-точкі!... Забойца я, сукін сын... Старасту нашага забіў... Макея...

— За што-ж гэта?—пытаецца сур'ёзна, са сполахам той-жа мужык.

Бліжэй прысоўваюцца людзі, абступаюць Максіма, быццам палохаюцца, што пачуе нехта і разьнясе па ўсяму сьвету...

— З толкам кажы—за што?

— Людзі, ня ведаю я...

— Э-эх ты, чалавеча!

Самы старэйшы гаворыць.

— Шкода цябе...

— Паслухайце вы мяне... асудзеце мяне... Крыўду я цярпеў, замучылі мяне людзі...

— Ты аддыхні, адкашляйся!—упрашвае старэйшы, сівабароды мужык.

— Сын у мяне быў,—няма яго... Каня апошняга зьвесьці з двара хацелі...

Яшчэ раз, як і ў воласьці, несьвядома гаворыць Максім пра сына, пра начальства, пра жыцьцё...

Шкода чужым людзём чалавека.

— Што мы зробім?

— Э-эха-ха!

Ізноў гаворыць старэйшы:

— Бяжы ты, чалавеча, у лес, а то горш будзе. Аблягчыў ты сваю душу— й бяжы, можа й непападзешся.

Тады Максім паслухмяна пашыбаў да лесу; тут нямнога прайсьці, а сасновы лес—чорны і маўчыць, ажно жудасна. Далёка, у глыбіні імшарніку вые-галосіць галодны воўк, адзін ён, працяжна заводзіць, глухая пагалоска аддаецца страшна ў сэрцы...

— Што-ж я буду рабіць?

Сасновы лес...

Сеў пад сукаватай сасною. Успырхнула птушка, шубнём пракацілася па зямлі; шыбуршыць гнілая трава, ламаецца чагосьці суччо. Па шляху (далёка гэта чуваць) едуць калёсы і, здаюцца Максіму галасы такімі знаёмымі...

— Ат, няхай сабе...

І вось цяпер, пад соснамі, хочацца Максіму думаць пра што небудзь раданае. Дрыжэў, седзячы скорчыўшыся і шукаў прыгожага, квяцістага ў сваім жыцьці. Перабіраў часы дзяцінства, маладосьці—і не знаходзіў. Зацягнулася яно туманам, сьляды ног пазарасьлі палыном...

Не, яно ёсьць...

Толькі нязвычайна даўно было, быццам сто гадоў таму назад,—у маладосьці. Гэта ў жніўную пару было, як на пастаці сустрэў, возячы з поля снапы, сваю жонку Дар'ю. Тады яна прыгожай была, а ён—Максім—здаровым хлопцам. Падсеў Максім пад жытнёвую капу, абняў за белую кашулю. Грэла сонца ды было горача, вось як цяпер.

І пела Дар'я звонкім дзявочым галасам на ўсё поле (здаецца, так):

„Пасылала мяне маці-і
Зялёнае жыта жа-а-ці-і...

Шумяць сосны.

Ці буйнае жыта шалясьціць!?

Ах, як слаўна ісьці па лузе па скошанай траве, нюхаць пах красак, размахнуцца касою, застыць у такім стане ды слухаць вясёлага жаўранка!

— Лю-юдзі, браточкі!

Шэпча і просіць аб нечым:

— Родныя мае!..

Ня ведае Максім: сьпіць ці не. Думае... Так перадумаў усё жыцьцё, самыя драбязгі жыцьця, самыя нязначныя здарэньні, вобразы людзей і шчасьця. Так перадумаў усё жыцьцё... І дайшло да таго, што Максіма—ціхага, нявіннага чалавека—вядуць к земскаму. Страшэнныя

ўсе людзі; як зьверы ўначы. Стукае земскі па сталу і крычыць немым голасам:

— Мужыччо!.. Павесіць яго на сасне!

Ці не на гэтай, што так шуміць цяпер?

Стаіць Максім, схіліў галаву. Падыходзіць стараста Макей, накідвае на шыю пяцельку з вяроўкі, каб ушчапіць пятлю на сук сасны...

— За што?—жаласна крычыць, просіць. І плача горка Максім.

— Я забіў чалавека, а не мяне павесілі...

Вострыя думкі, вастрэй нажа: усё роўна мяне павесяць, згоняць на край сьвету...

— А што я каму зрабіў—га?

Людзі!

Адранцьвелымі пальцамі шыбка расьпяразаў Максім пяньковую вяроўку, ашчупаў тоўсты каравы сук на сасне. І тады ня дрыжэлі рукі: супакойна завязваў вяроўку на сук, папробаў яшчэ-ці моцна. Ня помніў, як ускінуў на шыю, стаў на дыбы, выцягнуўшы ўперад шыю, сьцяў зубы. Тады задрыжэлі ногі ў каленях, заляскалі зубы, круглымі сталі вочы. І раптам стала жудасна. Хацеў падняць рукі, каб разьвязаць вяроўку ды ня было ўжо сілы, падагнуліся ў каленях ногі. Захрыпеў, сук заківаўся і валілася з яго раса на зямлю, потым,-- абарвалася вяроўка і цела Максіма паступова, стоячы на слабых каленях, пачала апускацца ў карэньні сасны тварам кнізу, на сівы мох...

Крычала ў лесе сава, нібы плакала дзіцё.

— Куга-а! Куга-а!..

А сосны шумелі.

## IV

Чуць раніца прывезьлі на падводзе старасту Макея параненага ў жывот. Ляжаў у сваёй хаце на палу і хліпаў, кляўся, каяўся ў нечым...

Сабралася цэлая вёска. Натоўпам асадзілі Макеяў двор, крычалі, галдзелі...

Тады пранеслася чутка, што найшоў лясьнік труп Максіма-самагубцы.

Жонка лямантавала на ўсю вуліцу, сьлязьмі расказвала людзям сваё гора.

„А дзетачкі-ж вы мае дробныя,
А як-жа вас карміць—гадаваць буду?
Ды зьвялі-ж яго злыя людзі са сьвету,
Што за праўду на гора йшоў...

Так яна расказала.

Мужчыны крычаць, пагражаюць:

— Га-ады!

— Ні за вошта чалавека загубілі...

— Ды цяпер такі час ужо...

— Павесіць-бы іх, сукіных сыноў самых на сасьне...

Хрыпіць ураднік.

— Н-народ, расхадзіся па дамам! Нечага тут, скора начальства прыедзе...

— Якое табе тут начальства? Тут чалавека загубілі...

— Адыйдзі, крываротая рожа, а то расквашу, ня будзеш тут з начальствам, як з ражном, насіцца...

— Што-о? Супроць уласьці... Бунтаваць!?.

— Пашоў ты... з уласьцю...

Брат Максімаў горача лезе з натоўпу, пхае людзей, кідаецца к ураднiку.

— Пусьцеце мяне!.. Разганю крывапіўцаў...

Махаюць у паветры над галавамі моцна сьціснутыя кулакі, жмуцца людзі, каб сарваць нейкую злосьць, адпомсьціць за Максіма. Стаіць ураднік выцірае рукавом пену з роту, твар крывіцца ад занявагі...

— Н-народ, расхадзіся ты па хатах, па чэсьці прашу...

— Я табе пакажу чэсьць...

— Даўно глуміцеся...

— ...А як-жа я, людзечкі пражыву, а няма-ж чым і пракарміцца мне з дробнымі дзецьмі...

Яшчэ бліжэй абступаюць ураднiка людзі, звалілі на зямлю, цiснуць, б'юць —злосьць сваю выяўляе грамада...

— А-ах, сьцерва...

Ураднік нязможна, пускаючы пену з роту, харкаючы крывёю, моліць:

— Н-народ!.. За што вы мяне, пашкадуйце старога...

Гэта помста...

Разыходзячыся, людзі казалі:

— Такі цяпер час...

Цэлы дзень над вёскаю стаяў сіні туман, засьцілаў балоты, сосны, закрываў жалобны голас у крывой, халоднай хаце ўдавы Дар'і.

Разьлівалася гора і сьлёзы...

12/III—27 г. Менск.

# Адпомсьціў

(*Апавяданьне*)

**Сьцяпан Нортман**

I

Даўно гэта было, было яшчэ за прыгонам. Ганялі нас усіх на прыгон, шэсьць дзянькоў. Ад усходу і да заходу сонца працаваў наш-брат мужык на пана.

Хоць-бы і ня хацеў ісьці працаваць, але войт кожнае раньне ўзбудзіць. Стараецца, для пана падхалім!

Мужчынам то яшчэ так-сяк, але-ж бабам, дык тым ну проста зарэз.

Трэба заранeй уставаць, каб яду якуюколечы прырыхтаваць і сабе і мужыку. А ў каго дзіцё малое, дык тым ужо ня жыцьцё, а катарга.

На пана ісьці працаваць трэба і дзіцяці шкада.

А ў асаблівасьці ў летні час, калі настане жніво.

Цягнецца баба на поле з калыскай, а жнучы ня думай адпачнуць, бо бізун з міласьцю самога войта, як з-пад зямлі вырасьце і крычыць!

— Ну! разглядаецца тут нібы-та на вясельлі, як прыдзеш дамоў там разглядайся, а тут працаваць трэба.

Гультаі пану не патрэбны.

Абальлецца сэрца жалем у жанчыны, але ўлада ў руках войта і пана. А калі супірацца пачне, то і на стайні пабывае, дзе так паўпіраюцца бізунамі, што праз два тыдні трудна і сесьці і легчы.

А то былі і такія, што перад тым, як біць тую ці іншую кабету, дык возьмуць ды над ёю пазьдзякуюцца, а потым і адлупцуюць па загаду свайго пана.

І ўсялякія штукі прыдумвалі каб скарэй скончыць працу.

У восень бывала дасьць пан дзьве сьвечкі і кажа, малацеце пакуль сьвечкі гэтыя не згараць. А сьвечак хопіць чуць не на ўсю ноч, адпачываць ня будзе калі, дык хлопцы ў кузьні набяруць апілкаў зялезных ды абатруць імі ўсю сьвечку, дык і гарыць яна многа хутчэй чымся бяз гэткага прымусу. А сёмы дзянёк—нядзелька заставалася мужыку для сябе.

Хоць дзень і сьвятошны, ды і грэхжа вялікі—сьмяротны, але ішоў мужык працаваць на сябе, бо есьці хацеў.

Але палову і гэтага дзянька пан адбіраў.

Ганялі ўсіх у царкву богу маліцца, а пакуль абедня атойдзе, ды дамоў зьвернешся, дык паўдня і няма.

Бядаваў пан аб душы свайго хлопамужыка хацелася яму, каб душа мужыка ў рай папала.

Дык вось у гэткія часіны жыцьця і жыў у нас здатны дзяцюк Мікола. Хлапец ну проста глядзі ды й радуйся, кроў з малаком, як казалі ўсе.

Дужы быў хлапец, куль мукі з панскага млыну возьме ў 10 пудоў і нясе, як ні ў чым нібывала.

Была ў пана дачка—Анэляю звалі. Пан жыў удаўцом, жонку пахаваў перад гэтым ён гады з чатыры назад.

Але хоць і стары пан быў, а як прыдзе чыё небудзь вясельле, дык першую ноч маладая па заведзенаму правілу ішла пану пяткі часаць.

Хоць і прыкра на сэрцы ад старога сгніўшага пана, але ішла, бо ведала, што сілком гайдукі забяруць.

II

Мікола працаваў у панскім садзе, сухое гальлё абразаў. Любіў хлапец моцна працу ў садзе, ну пан бачачы, з якой ён кемнасьцю бярэцца за гэту працу зрабіў яго садоўнікам.

Так бывала ён кожны дзянёк і капаецца ў садзе, то грады пад кветкі ўскопвае, то кветкі садзіць. А ноччу ў час, калі яблыкі пачнуць падрастаць, дык і сад ён пільнуе. Хараство прыроды любіў. Па цэлым начам глядзеў на неба, лічачы зоркі, як казалі пра яго, а ад чаго гэта так прыгожа ў прыродзе Мікола ня ведаў, бо быў няпісьменным чалавекам.

Дык вось, Мікола абразае гальлё, а Анэля вазьмі ды і выйдзі ў гэты час з пакою ў сад пагуляць, палюбавацца, як кветкі цьвітуць у летні час і ня вянуць, як трава зялянее-расьце, птушкі шчабечуць-пяюць, а дрэвы шапацяць лісьцем, нібыта аб каханьні.

Дык у гэткі вось час і спаткалася Анэля ў садзе з Міколам.

Засаромеўся хлапец, шапку зьняў пакланіўся паненцы.

Ёкнула сэрца ў Анэлькі, як убачыла Міколу.

Статны—здаровы ён зьвярнуў думкі к асілкам.

„Здатны хлапец і цікавы“, мільганула думка ў галаве ў дзяўчыны.

Запытала, ці-ж праца цяжкая?

— „Кожная праца паненка цяжар свой мае“, адказаў ёй Мікола.

Памаўчала, паглядзела, як працуе Мікола і пайшла ізноў у пакой Анэля.

А Мікола ўсьлед ёй глядзеў, хацеў вобраз пакінуць у сэрцы.

Вечарам, лажучыся спаць, Анэля марнавала сябе думкай аб Міколу.

Тыя панскія хлапцы, якія сустракаліся ёй да гэтага часу, супроць Міколы ёй здаваліся замухрышкамі. Засынаючы думала аб Міколу, як яна заўтра ізноў пойдзе ў сад і сустрэнецца з ім.

III

І кожны дзень паненка прыходзіла ў сад, садзілася на мураву-траву, падзывала Міколу. Гутаркі пачыналі розныя. Рассказвала яму Анэля пра розныя здарэньні на сьвеце. Аб тым, што ў некаторых краінах прыгону ўжо няма.

Любіў больш усяго Мікола слухаць аб розных краінах. І калі Анэля казала, што ў некаторых краінах прыгону няма, то Мікола адчуваў сябе як-бы прывязаным к панскаму саду.

Эх, каб і ў нас была воля, як-бы гэта хлапец паляцеў у сьвет, куды? і сам ён гэтага добра не разумеў, але далей ад зьдзекаў звар'яцелага пана.

Лажучыся спаць Мікола марнаваў сябе думкай, што можа і ў нас прыгон адменяць і будуць вольнымі ўсе.

А не, дык?

Зьбегчы думаў Мікола ад гэтага лютага пана.

Але Анэлька цягнула яго ўсё бліжэй да сябе, ня прыкмячаючы сваіх пачуцьцяў Мікола ўкахаўся ў панскую дачку. Анэля таксама пакахала Міколу. Спаў Мікола і сьніў ён, кожны раз, што сялянства вольнае, кожны мае свой кут, сваю зямельку, скацінку, ня кланяецца пану, ня стогне пад пятой у пана, а ўжо сам пануе над усім і агульнымі сіламі кіруе ўсім.

А прачнецца ранкам, трэба на пана ісьці працаваць, дык закамянее сэрца аж пакуль ня сустрэнецца з Анэлькаю. Сумуе хлапец па волі, як птушка ў клетку пасаджаная і Анэльку, дачку панскую, кахае.

IV

Дзянькі зьмяніліся ночкамі, а ў Анэлі з Міколам каханьнем.

Сьведкамі іх каханьня былі: месяц, што плыў у паднябесьсі, ды рэчка з кустамі. Пад журчаньне вады, шапаценьне кустоў мілавалася паненка з мужыцкім хлапцом.

Ночка абгарнула зямельку.

Месяц плыве белы, ясны. Душная ночка. Ня сьпіцца старому пану, думкі абгарнулі яго, роем бягуць. Вышаў пан у сад праветрыцца троху. Дайшоў да ракі, бо цякла праз сад, і чуе, што нехта гамоніць.

Бліжэй падышоў, месяц выплыў з-за хмарак і асьвяціў увесь бераг ракі. Дрогнула сэрца ў пана, калі ўбачыў сваю дачку з мужыцкім хлапцом. А яны ня чуючы ліха, як галубкі воркуюць, туляцца адно к аднаму.

Цалуюцца, песьцяцца.

Акамянеў пан, як убачыў гэта каханьне. Стаіць і з мейсца ня кратаецца.

Але раптам крыкнуў, „зладзеі дзяржыце“. Усхамянуўся народ.

У сад к пану бягуць, ратаваць свайго ворага лютага, хоць сьмерці яму і жадаюць усе.

Усхапіўся і Мікола з Анэляй—пабялелі абое, шчасьце разьбіта—ня будзе дзянькоў ім прыгожых.

„Хапайце Міколу!“—камандуе пан:— „вяжэце злодзея!“

На стайню павялі і білі Міколу да паўсьмерці. Не стагнаў, не прасіўся, бо ведаў, што пан ня зьлітуецца.

V

Запёр пан Анэльку ў пакоях. Сядзіць адна, маркотненька беднай, плача, хвалюецца па шчасьці разьбітым. Як саджаў яе пан, дык сказаў.

„Ці дурасьць з галавы выскача, ці лепш умірай, а роду ня дам я бясчэсьціць“. А Мікола, капаецца ў садзе, але прыгожасьці тэй не адчувае, што была ў часы іх каханьня.

Палае помстаю сэрца Міколы!

Помсту прыдумаў ён пану, за разьбітае шчасьце і біцьцё на стайні.

Але думка аб Анэльцы не давала спакою. Сваю помсту хлапец выканаў-бы даўно, але, як аднясецца Анэлька да гэтага?

Расчапілася сэрца на дзьве пілавінкі. Адна частка кажа: „Помсту рабі“!

А другая:—„Анэльчын ён бацька“.

Ня вытрымаў хлапец, прабраўся ён ноччу к вакну, дзе Анэля сядзела.

І сказала Анэля, што бацька ёй сёньня казаў, каб зьбіралася к вясельлю, аддае яе пан за прыемнага для яго зяця, бо многа зямлі і сялян той мае, а вясельле ў нядзелю.

Засумаваў Мікола пасьля гэтага. Пахудзеў, есьці нічога ня хоча.

Раіўся ён з Анэляю каб уцячы, але нічога ня выйшла, крэпкія запоры ў пана.

Як сказаў пан, так і вышла, абвянчаўся з Анэляй памешчыцкі сын і заграніцу павёз яе далёка.

І цяпер ужо Міколу ад помсты нічога ня сунімала. Цемнай ночкай асеньняй нехта ціха падкраўся к панскаму пакою. Крэпка заснуў вартаўнік і ня чуе, што певень ахапіў пакой і трашчыць—сьпяшаецца зьесьці ўсё.

Згарэў маёнтак, не пасьпелі адратаваць яго людзі. Згарэў у ім пан.

Вецер разьдзьмуў на заўтра попел, дык толькі кучка абгарэўшых касьцей апавядала, што загінуў тут пан. Ня бачылі з таго часу й Міколы. Казалі, што гуляе на Дняпры Мікола, што палюбіў ён раку ды красу лесу цёмнага, які не прадасьць і ня купіць яго. Сабраў сабе хлапцоў і з імі разам паліць маёнткі паноў. Трашчаць галовы панскія пад цяжкою рукою Міколы. Але скора пайшла чутка што прапаў зусім Мікола. Нібыта царскае войска ў палон узяло яго. Загінуў Мікола хлапец.

Ня ведаў, шчэ добра хлапец, што каб усе, як ён паўсталі, паноў ня было-бы даўно, як гэта ў нашыя часы сталася.

*М-ка Смалявічы, Менскай акругі.*

# Шолам

### Васілёк

У нядолі і ў долі шчасьце куй да падкоўвай, прыгравай нясьціручымі мазалямі. Рукі апусьціш—не чалавек ты, а стары атопак, якім папіхаюць куры ў сьметнішчы. Дык вось як, не апускай-жа рукі, бо заўсёды іх шыла чакае. А з шылам і малаток за панібрата. А к ім скуры кавалак, дратвы маток, і што табе трэба—сыт будзеш, жонка з печы часьцей усьміхнецца і весела скажуць дзеці:

— Татка, татачка, на яблыкі дай...

І дасі, на тое яны і дзеці, каб на яблыка даць, бо іначай... іначай ты ня татка і не чалавек.

А калі заварушацца шэраю купінай нудныя клопаты, калі чорныя думкі апантаюць розум і на сэрца надавіць камень шызага суму,—бяжы тады, чалавеча, узьніміся з скрыпучага зэдліка і бяжы, прабегайся, праветрай зьнямеўшыя ногі, разьвей, раскідай нуду жыцьцёвую па вуліцах, да па перавулках ціхіх. Потым будзеш вясёлым...

І бегае стары Шолам, хутка бегае. Сядзіць, сядзіць над шавецкім начыньнем і раптам падскоча, шапку нацягне, у рукі палку і толькі ты яго й бачыў, як ён ужо па другім канцы мястэчка. Праз хвіліну назад лапаціць.

— Куды ты, Шолам?

— Ат, нікуды, гэта я так-сабе...

— Як гэта так-сабе?

— Бегаю...

— Ты? Бегаеш?

— Ну, і бегаю, на тое-ж я і татка, каб бегаць...

— Та-а-к...

Дзіўны чалавек Шолам. Пабегае, пабегае і зноў на месца, ізноў шархаціць дратва і скача малаток па падэшве. А там, глядзі, з пад рук і выйдзе чаравік новы, ці бот прыгожы. І тады Шолам заўсёды кажа жонцы сваёй:

— Эстэрке! Бачыш, чобат новы—к субоце пшанічнай мукі купіш. А чаму чобат новы—я бегаў і занадта бегаў, бо вельмі перапляліся думкі паміж сабой, перапляліся так моцна, як добра падсмажаны грэбэнэс. А калі пераплятаюцца думкі, тады ніводнай ня відна, бо адна засьціць другую. Прабяжыш—усё і становіцца ясным, на месцы сэрца і розум.

Шолам гаворыць, а дратва шорхае ў спрытных руках, глядзі,—і другі бот вылузнуў капыльле з сябе і чорны, бліскучы становіцца на паліцу. Чобат на паліцу—і ўсьміхнецца Шолам, рукі патрэ, жонцы міргне і скажа:

— Гут!

Тут Эстэр падасьць Шоламу печанае яблыка і ён, зьлямчыўшы яго, ізноў за бот, за новы, бо многа ботаў трэба... Але што-ж, калі ў Шолама толькі пара рук уласных, да поўная хата таксама ўласных дзяцей, а ў кожнага дзіцёнка рот і кожны рот мае за звычай адкрывацца па некалькі раз на дні да пачынаць адну і тую-ж нудную казку:

— Мамка, хлеба...

— Мамка, супу...

— Татка, яблыка...

— Гурка-а...

— Цыбу-у-у-лі...

— Рэдзькі, рэдзькі, рэдзькі...

А самы меншы селядцы любіць, ой, як любіць, яшчэ дай яму ня што-небудзь, а хвост

— Татка, хвост, хво-о-ст...

— Ну, на табе і хвост, толькі замаўчы ты, і зачыні сваё зяпала...

— Ой, Шолам, Шолам, што ты на дзіцёнка кажаш, вярзеш, няма ведама што...

— Ну, яшчэ, што сказаш, хіба я свайму дзіцяці вораг, ну, няхай сабе на здароўе есьць... Ну, што я сказаў, ну, гавары, ну... Калі я кепска сказаў, ну, дай яму яблыка, няхай сабе есьць на здаровейка...

А малому што, малы рад: і хвост і яблыка! Гэта лепей, чым сухая маца на пасху, чым горкая рэдзька з мёдам. Грызе малы яблыка і ўсе паглядаюць яму ў вочы, ой, як паглядаюць і пачынаюць ізноў:

— Татка, і мне...

— І мне...

Але-ж трэба ведаць граніцы, ня сем, а пара рук у Шолама і боты бог ня кідае з неба, як манну калісьці і кожны бот мазалёў каштуе, а мазалі больш магчымага па далоні не зьмяшчаюцца. Таму і ўстае Шолам з скрыпучага зэдліку, бровы насупіць, рукой махне і раптам адрэжа:

— Годзе... Шша...

Калі ша, дык і ша. Дзецям не ўпяршыню загад гэты і яны гурмай сыпяць на двор.

Шолам працуе і бегае, бегае і працуе і кажа ўсім „Дзень добры". Але не падумайце, што ён думае толькі пра добры дзень, калі ім прывітае суседзяў, знаёмых. Не, і другія думкі, і словы другія мітусяцца ў яго галаве непакойнай, калі сутуліўшыся, навойстрыўшы плечы ён шэраю зданьню праносіцца ўзад і ўперад па ціхай вуліцы местачковай ад самай сінагогі і да шырокага рынку, дзе штодзённа сядзіць пад нізкай абаранкаў старая Роха і чакае, не дачакаецца, пакуль вынырне з-за вугла які-небудзь хлопчык-купец і прамянае скрадзенае ў клеці яйка на чэрствы абаранак, печаны перад пазамінулым шабасам. І забачыўшы Роху ветліва ўсьміхаецца Шолам:

— Ну, як гандаль?

— Дзякаваць богу і людзям—нічога сабе...

Хіба скажа Роха, што абаранак чэрствы, хіба скажа, чаму ён чэрствы. І ня будзе Шолам пытацца, ён так ведае, што абаранак чэрствы, бо чэрствае жыцьцё, бо чэрствыя сьцежкі людзкія:

— У Эйдлі сукенкі няма...

— Жонка датоптвае чаравікі...

— Айзік ходзіць бяз порткаў, праўда ён малы, але ў мяне бацькава сэрца, таму—як жа яму быць бяз порткаў?...

— А ў Гінты панчох няма... У Ісака няма... няма... да ці мала чаго няма, куды ня круці—усё няма і нямашака...

І думкі пачыняюць кружыць у другім напрамку:

Івану боты пашыць—Эйдле сукенку...

— Сьцяпанісе чаравік абсуюзіць—панчохі Гінце...

— На порткі—дзесятак лапікаў, кашуля—абшыць валенцы дзеда Гаўрылы...

Лапікі, падэшвы, суюзкі—глядзіш—і ўсьміхнуўся Шолам павёўшы сваёй нэрвовай брывёй.

Да й як ня ўсьміхнуцца, калі лічыў, лічыў, да і вылічыў, што застаецца яшчэ і на хлеб, да яшчэ чаго добрага, і на кавалак мяса к субоце. А калі так, дык ізноў за працу. Шолам сядзіць і супакоены прагулянкай па вуліцы весела калупае шылам, пастуківае малатком па чобату, нават песьню зацягне паціху, песьню ня песьню, а так нешта-нейкае бяз слоў, бяз думак, нешта ціхае і цягучае:

— Ой-о-ой-ой-ой-ой, а-я-я-й...
а-я-я-я-я, ой-ой-ой...

Бабруйск.





# Мэліорацыя ў БССР

БССР мае больш 1.600.000 дзесяцін балот. Уся гэтая вялікая плошча зусім не скарыстоўваецца і ня прыносіць ніякіх прыбыткаў ні дзяржаве, ні насельніцтву. Толькі пры дапамозе мэліорацыі гэтыя паўтара мільёны могуць зрабіцца ўдобнай зямельнай плошчай. Ва ўмовах нашай аграрнай перанаселенасьці, калі сяляне адчуваюць вялікі недахват у зямлі і прымушаны часткова шукаць працы ў горадзе і часткова перасяляцца ў іншыя мясцовасьці Саюзу, мэліорацыйныя мерапрыемствы зьяўляюцца важнейшымі ў сельскай гаспадарцы БССР.

Найбольшая плошча балот знаходзіцца ў Мазырскай, паўночных частках Слуцкай і Бабруйскай акругах (Палесьсе). Насельніцтва ў гэтых мясцовасьцях прымушана жыць сярод балот, адмяжованае большую частку году ад іншых мясцовасьцяй бездарожжам. Тут без мэліорацыі немагчыма ніякае культурнае будаўніцтва.

Раней царскі расійскі ўрад таксама клапаціўся аб асушцы балот, але толькі хутчэй у інтарэсах абшарнікаў, чым сялянства. За працяг часу з 1873 да 1914 г. у межах Беларусі было пракопана сплаўных равоў да 4.000 вёрст і асушана плошча ў 400.000 дзесяцін. У часы імпэрыялістычнай вайны ўся асушаная плошча затапілася і каналы зацягнуліся пяском.

У 1921 годзе перад савецкай уладай БССР паўстала пытаньне аб аднаўленьні затопленых каналаў і аб правядзеньні новых мэліорацыйных работ. Ня гледзячы на недахват сродкаў, за апошнія 5 год савецкая ўлада дасьледвала мясцовасьці, у якіх мае быць праведзена да 3.000 вёрст каналаў, адрамантавала 346 вёрст каналаў, прарыла 155 вёрст новых каналаў і прывяла ў належны стан рэкі на працягу 72 вёрст. Акрамя гэтых буйных работ, за гэтыя-ж гады былі пабудованы новыя масты, шлюзы і адрамантаваны старыя масты, гаці.

Вострая патрэба ў мэліорацыі зямель робіць сялянства актыўным, і яно арганізуецца ў мэліорацыйныя таварыствы для стварэньня простых, недарагіх мэліорацыйных работ. У 1921 годзе існавала толькі 13 мэліорацыйных таварыстваў з плошчаю забалочаных земляў у іх 683 дзесяціны, а ў 1925-26 годзе ўжо было 425 таварыстваў з плошчаю 78.594 дзесяціны. За адзін 1925-26 год таварыствы сваімі сіламі асушылі больш 10 тысяч дзесяцін балот.

Зразумела, што дзяржава не здолее асушыць усю вялізарную плошчу балот БССР без дапамогі самога сялянства. І сялянства, якое само ў першы чарод зацікаўлена ў тым, каб павялічыць плошчу карыснае зямлі, каб палепшыць свой ураджай,—павінна ўсю сваю ўвагу зьвярнуць на асушку балот. Сяляне павінны організоўвацца ў мэліорацыйныя таварыствы; дзяржава дасьць ім тэхнічных кіраўнікоў і крэдыты для правядзеньня мэліорацыйнае працы. Акрамя таго, наш мэліорацыйны Кодэкс прадбачае шмат ільгот тым, хто праводзіць мэліорацыю.

Нашы фотографіі, якія мы даём на гэтай старонцы, малююць вынікі мэліорацыйнае працы: фот. 4—канал занесены пяском, фот. 2—той самы канал пасьля ачысткі; фот. 3 і 5—новы канал імя Леніна ў Магілеўскай акрузе; фот. 1—часовая сталоўка на балоце ў лесе для працуючых пры дзяржаўнай мэліорацыі ў Слуцкай акрузе.

# Калядны вечарок

Міхайла Грамыка

Хатка, хатка, маці, татка,
Старажытнасьці куток,
Печка, дзежка і аладка,
Ды вярбы старой лісток.

Нават сьвечка і лямпадка,
А за печкай—цьвіркунок,
А ў нядзельку—і аладка,
І заквашаны жбанок...

Усё, усё тут пражыта,
Хоць нядаўна і было!
Недалёка ад мяжы тэй,
Ды ня відна праз быльлё!

* * *

Толькі завезьлі з поля жыта,
Бацька „кволага" запрог,
І з грудзёў таго, хто жыць даў,
Па мужчынскі вырас ўздох...

А там—сьлёзы! я-ж вучыца,
„Я у горад, маці, кінь!"
А у самой душа віхрыцца:
Дні дзяцінныя—адхлынь!

А цяпер гудок марозны
Зосю зноў у кут прывёз.
„Там" і „тут",—усё так розна
Да варожасьці, да сьлёз!

Там—шуканьні маладосьці,
Кнігі, лекцыі, даклад...
Тут—скрыпяць старыя косьці,
Заплясьнелы шэпча лад.

Тут—ня раз глядзела Зося
У твар кіруючых людзей,
І паслухаць давялося
Тых, хто моцна водзіць рэй.

Там—жывуць, каго чытала,
Хваляваў хто вершам кроў,
Там—Андрэй, Якуб... ці мала
Песьняў гонкіх уладароў!

Там—цьвіркун цьвірчыць у запеччы,
Тут—вярба за абразком,
Моцны лёд ляжыць паўзрэччу,
Белапольле за гумном...

* * *

Татка, маці—на вячэрні,
Ну, а Зося?—ні туды!
Што ёй шлях стары між церняў,
Змрок папоўскае нуды!

Ціха, ціха у іхняй хаце.
Нават вочы не гараць,
Прыдзе маці, сумна з маці:
Паспрачаюцца, ды спаць!

Кроў адна, а думкі розны,
Дні дзяціныя, як плынь!
На вакне узор марозны
За вакном дарога-сінь...

Абяцаў заехаць сяньні,
Каб у горад абаім,
І сядзіць, чакае зраньня,
Хоць сурова звонку з ім.

Не красун ён сінявокі,
Не з раманаў тых герой,
Ды хадзіў на ўсход далёкі,
Ды пад крымскай быў гарой!

Ваяваў на фронтах белых,
У моры чорным мыў каня,
Усё у ім ясна, зразумела—
І работа і гульня.

Ён сказаў: „Паедзем разам",
„Па дарозе абаім!"
І з усьмешлівым адказам
У сэрцы Зосі стаў сваім...

Кроў чужая, а па думках
За бацькоў ён ёй радней
Будзе шэпату па кумках,
Ды за тое—сьвет відней!

А цьвіркун цьвірчыць у запеччы,
Пад рукой раскрыты том.
Трэснуў чорны лёд у зарэччы,
Хтось спыніўся пад вакном.

Хтось канём на сьвет пад'ехаў:
У шкло ударыў пары слуп.
Дык няўжо сказаў ня сьмехам?
Скуль ён ведае, што люб?

І закрыла том чытаны,
Што ёй пісаны раман,
Калі з Янам у круг абраны,
У сьнегавы прастор-дыван!..

* * *

Вось царква. Старая брама
Змрочных сьвечак сінямчкі,
Успаміны пра Адама,
Спаконвечныя цянькі...

Ноч. Прастор замілаваны.
У небе зоры-аганькі.
Конік моцны і рахманы,
І далёкія гудкі.

Вось лясок, як тая пляма.
А за лесам—семафор
—„Я-ж вучыцца! Мама, мама!
Не патрэбны твой дакор!

„Я-ж туды, дзе горад, зьзяньні,
„Новы быт і новы лад,
„Дзе ня вера, а змаганьне,
„Без сьвячэй і без лямпад!“

Ціха там, у цёмнай хаце...
Як спыніў цьвірчэць цьвіркун,
Дык вярнуўся бацька з маці:
—„Мусіць сьпіць дачка-уюн!“

—„Ой, ня сьпіць!“—спыніла маці,
Асьвятліла свой куток:
Пуста, чорна у іхняй хаце,
На стале ляжыць лісток...

Хатка, хатка, маці, татка,
Старажытнасьці куток.
Печка, дзежка, ды лямпадка,
Ды вярбы сухі лісток!

Нават кніжка... і лямпадка,
За лямпадкай „той“ лісток.
І нядзелька без аладкі,
І патрэсканы жбанок...

## З А Я Ц

М. Хведаровіч

I

Цягнуцца доўгія дні,
Сівы ў марозе хвойнік.
Сьпіць касавокі і сьніць,
Быццам сабакі гоняць.

Сьмерць за плячамі ўжо
Блізка сабакі, блізка.
Месяц крывым нажом
Хіліцца к долу нізка.

Сьнег—рассыпны пясок —
Сыпле ў косыя вочы.
Блізіцца ўжо лясок,
Крок, яшчэ крок і ўскочу.

Блізка да мэты ўжо,
Вось і жаданы ельнік...
Нехта стаіць з ружжом,—
У сьнягу на калені.

II

Лупнуў вачыма ад сну,
Белым паркалем пароша.
Бачыў ён сьмерць не адну,
А сьнілася ўсіх харошай.

Ужо ўзыходзіць зара,
Голадам душу раніць.
Гэтая сьвежая рань,
У белы бярэзьнік маніць.

Вышаў—маўклівая ціш,
У небе хтось зоры тушыць.
Трэба вышэй нясьці,
Свае чулыя вушы.

Вось і заécчы стол,
Вось і заéчыя клеці:—
Нізка схілілі на дол,
Бярозанькі тонкае вецьце.

III

У зайца кароткі век,
З куляю будзе спатканьне:
Вышаў з ружжом чалавек
Раніцай на паляваньне.

Бачыць у полі сьляды,
Пільна за імі сочыць.—
Русы тут добры хадзіў,
„Болей хадзіць не захоча“.

Вось пратаптаны сьнег:—
„Мусіць на сьнедані ў гаі?
Будзе на шапку мех—
Добры мясісты заяц“.

IV

Вось і напасьвіўся заяц,
Месяца ўсходзіць серп.
Заўжды ніхто не знае,
Дзе сустракае сьмерць.

Хтосьці кусты варушыць,
Хтосьці цярусіць гальлём.
Чуюць заечыя—вушы...
Хтосьць прытаіўся з ружжом.

Раптам, пасыпалі зоры,
Пухам узьлящела шэрсьць.
Бачыў ён сьмерць учора,
Гэтая-ж ўсіх харашэй.

## К А Х А Н Ь Н Е

Ал. Дудар

Атулі рукою залатыя скроні...
За ракою звоніць асака,
Чэзьне ночка за ракою,—
Пачакай!..

За ракою вецер ціхі дол сьвідруе,
Гасьне зорка белаю сьвячой...
Абніму і пацалую
У плячо.

Маладосьці зоры, маладосьці чары!..
Распусьціла любая касу.
Ты ня бойся: праз імшары
Панясу!..

Прытулю да сэрца, прытулю да вуснаў...
Глянь у вочы... любая мая!..
Мы жыцьцё квітнець прымусім—
Ты і я.

Атулі-ж рукою залатыя скроні!..
Перастане шастаць асака;
Згасьне ночка за ракою...
Пачакай!..

# Чарговыя задачы нашага літаратурнага жыцьця [1])

Уладзімер Дубоўка

Культурнае будаўніцтва пачынае ўсё больш і больш цікавіць Савецкае грамадзянства, пачынае з кожным днём станавіцца больш чынным. Як вялікая частка гэтага будаўніцтва, як чыньнік першачарговага значэньня паўстае перад намі пытаньне аб стварэньні пролетарскай літаратуры, аб стварэньні нормальных умоў для разьвіцьця і ўдасканаленьня пісьменьнікаў, а, знача, і літаратуры.

Пытаньне аб разьвіцьці і ўдасканаленьні пісьменьнікаў, аб шляхох гэтага разьвіцьця зьяўляецца спрэчным да апошняга моманту. Адны ўважаюць, што найбольш становўчых вынікаў можна дасягнуць цераз згуртаваньне пісьменьнікаў у масавыя організацыі; другія—кіраваньнем і парадамі цераз газэты і часопісі, а трэція—цераз упартую колектыўную працу ў невялікіх згуртаваньнях, працу творча-мастацкую і адукацыйную.

Кожны прыхільнік таго ці іншага кірунку даводзіць правільнасьць яго і мэтазгоднасьць. Усе разам яны згадзіцца аб шляхох і мэтодах сваёй працы ня могуць. У кожным з гэтых кірункаў ёсьць і становўчае, ёсьць і адмоўнае. Не спыняюся тут з падрабязговым аналізам гэтых кірункаў, бо гэтае пытаньне вырашаецца ў залежнасьці ад вырашэньня агульнага пытаньня, пра якое я распачынаю сёньня гутарку.

Сьцьверджаньнем, якое не вымагае вялікіх тлумачэньняў і абароны, зьяўляецца тое, што зрабіцца пісьменьнікам паводле свайго жаданьня ні ў якім разе ня можна, бо для гэтага патрабуюцца вядомыя даныя прыродныя, спрыяючыя ўмовы ў адносінах разумовага разьвіцьця і г. д. Пакуль што, падначаліўшы сваёй волі шмат з законаў прыроды, чалавек ня можа кіраваць гэтай галіной разумовага жыцьця паводле свайго жаданьня.

Другім сьцьверджаньнем зьяўляецца тое, што самы таленавіты мастак (поэта, музыка і г. д.) без належнага выхаваньня і разьвіцьця, без азнаямленьня з дасягненьнямі сваіх папярэднікаў у выбранай галіне творчасьці ня дасьць нічога каштоўнага, змарнуе свой талент.

З гэтых двух сьцьверджаньняў вынікае адпаведны вывад: павінны быць створаны такія ўмовы, пры якіх кожны рабочы ці селянін, які жадае працаваць у галіне літаратуры, меў-бы магчымасьць выпрабаваць свае сілы і здольнасьці, і пры становўчых выніках гэткага выпрабаваньня, мог-бы атрымаць магчымасьці для належнага разьвіцьця і ўдасканаленьня. Перш, чым парайсьці да абгаварэньня спосабаў дасягненьня памянёнага вышэй, лічу патрэбным спыніцца на аглядзе таго становішча, якое ёсьць у нас на Беларусі ў даны момант.

1. Існуе група пісьменьнікаў старэйшага пакаленьня—Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны.—Гэтыя пісьменьнікі перарасьлі рамкі літаратурных організацый, формальна ні да якой літаратурнай організацыі не належаць. Не належаць затым, што літаратурныя організацыі нічога даць ім ня могуць. Наадварот, іх, старэйшых пісьменнікаў, можна скарыстаць для кіраўнічай працы ў той ці іншай форме, каб яны падзяліліся сваім жыцьцёвым і творча-мастацкім вопытам з малодшымі пісьменьнікамі.

2. Існуе і працуе вялікая організацыя, якой на Беларусі ў адносінах да літаратурнай творчасьці не надаецца пакуль што тэй увагі, якую яна заслугоўвае—гэта рабкораўская і селькораўская сетка нашых газэт. У шэрагах гэтай арміі рабоча-сялянскай моладзі ёсьць шмат здольных пісьменьнікаў, ёсьць шмат талентаў, якія пакуль што прабуюць свае здольнасьці ў пісаньні допісаў у газэты, а часам вершаў і апавяданьняў. Частка іх, пападаючы з вёсак у гарады, пераходзіць у шэрагі „Маладняка“, але гэтая частка вельмі нязначная. Большая частка ці прабуе свае сілы выпадкова, ці пасьля няўдалых спроб, закідае гэтую галіну працы. Жыцьцё вымагае ад нас зьвярнуць найвялікшую ўвагу на гэтыя творчыя рэзэрвы.

---

[1]) Зьмяшчаючы гэты артыкул, рэдакцыя просіць чытачоў „Чырвонага Сейбіту“ выказаць свае думкі адносна зачэпленых пытаньняў шляхам прысылкі ў рэдакцыю лістоў, у якіх, па магчымасьці, закрануць такія пытаньні: а) ці патрэбна ажыцьцяўленьне вызначаных артыкулам пытаньняў; б) ці пажадана наладжаньне па вёсках і раёнах мастацкіх конкурсаў; в) якія надзенныя пытаньні, шчыльна зьвязаныя з нашым літаратурным жыцьцём, ня высьветлены ў артыкуле.

3. Аналёгічна з папярэдняй разьвіваецца і працуе значна меншая па маштабу і абхвату організацыя—„Маладняк“. Як паведамлялася нядаўна, лік членаў „Маладняка“ ўзрос ад 500 да 1000 чалавек. Але ўсё-ж, і гэты лік куды меншы ад ліку рабкораў і селькораў БССР, а таксама ад ліку той рабоча-сялянскай моладзі, якая піша допісы, апавяданьні і вершы ў акруговыя газэты, у насьценныя газэты, у школьныя часопісі і г. д.

У кожным разе, у „Маладняку“ выявіліся і заваявалі сабе пісьменьніцкае імя такія, напрыклад, таварышы, як Чарот, Зарэцкі, Дудар, Барашка, Александровіч, Ніканoвіч, Галубок, Трус, Журба, Моркаўка, Яхімовіч.

4. Зусім новае ў беларускіх умовах згуртаваньне „Ўзвышша“ ўтварылася нядаўна. Аб мэтах яго гаворыць „Комунікат“, выдрукаваны ў газэце „Савецкая Беларусь“ у сакавіку 1927 г., а таксама „Тэзісы да пытаньня аб утварэньні „Ўзвышша“, якія будуць выдрукаваны ў часопісі гэтага згуртаваньня. Дзеля гэтага, спыняцца шмат наконт яго ня буду. Зазначу толькі, што асноўнай мэтай згуртаваньне ставіць стварэньне беларускай пролетарскай літаратуры на падставе паглыбленай творчай і крытычна-дасьледчай працы.

Такім чынам бачым, што на Беларусі існуюць усе даныя ў адносінах да наяўнасьці творчых рэзэрваў, у адносінах даных на паступовае збольшаньне іх.

Паўстаюць запытаньні першачарговага значэньня:

а) якім чынам дапамагчы маладым пісьменьнікам выпрабоўваць свае сілы і здольнасьці;

б) якім чынам дагамагчы маладым пісьменьнікам, якія ўжо больш менш выявілі свае здольнасьці, далей разьвіваць і ўдасканальваць іх;

в) якім чынам падначаліць усе гэтыя сілы плянаваму і сыстэматычнаму ўплыву пролетарскай ідэолёгіі, каб паступова зьнішчаць у іх уплывы шкодныя і варожыя асноўнаму мэтаімкненьню.

На першае запытаньне мне адкажуць: існуючыя масавыя рабкораўскія і селькораўскія організацыі, „Маладняк“, а таксама нашыя газэты і часопісі робяць гэта ў выстарчаючай велічыні.

З такім адказам згадзіцца ня можна. Калі мы возьмем перагледзім усе нумары нашых часопісяй і літаратурныя старонкі газэт, у тым ліку і акруговых, мы знойдзем там больш менш выяўленыя імёны. У ліку гэтых „выяўленых“ ёсьць шмат і няздольных поэтаў ці пісьменьнікаў, якіх друкуюць таму, што „яны-ж друкуюцца даўно“. У той-жа час, сьвежыя маладыя сілы пападаюць у друк вельмі рэдка. Пераканацца ў гэтым можна шляхам самага звычайнага арытмэтычнага падрахунку. Лік моладзі, якая лічыцца ў організацыях, абсолютна не падобны да ліку тэй моладзі, якае друкуе свае творы. Гэт-ж самае зазначана і ў лісьце тав. А. Калевіча, зьмешчаным у № 6-7 „Чырвонага Сейбіту“.

Рэдакцыя „Беларускай Вёскі“ бліжэй за ўсіх падышла да вырашэньня гэтага пытаньня, распачаўшы выданьне памянёнай літаратурна-мастацкай часопісі. У „Беларускай Вёсцы“, а зараз у „Чырвоным Сейбіце“ больш за ўсё і выяўляюцца новыя маладыя сілы.

### Што трэба рабіць у далейшым?

**Трэба**, каб падобныя літаратурна-мастацкія дадаткі (калі немагчыма двухтыднёвыя—месячныя) організавалі ўсе нашыя цэнтральныя газэты („Звезда“, „Савецкая Беларусь“, „Чырвоная Зьмена“).

**Трэба**, каб пры організаваным ужо дадатку, пры „Чырвоным Сейбіце“, пачала працаваць **сталая** літаратурна-мастацкая консультацыя. У задачы гэтай консультацыі павінна ўваходзіць (часткова яна зьдзейсьнена, але я кажу аб поўным)—а) адбор і рэдагаваньне твораў годных да друку; б) пісаньне падрабязговых адказаў і парадаў цераз паштовую скрынку паводле тых пытаньняў, якія маюць шырокае значэньне; в) асабістыя адказы (лісты) на пытаньні, якія ня маюць шырокага значэньня.

**Трэба**, спачатку ў вёсках пры школах ці хатах чытальнях, а затым пры раённых камітэтах комсамолу, наладзіць і правесьці конкурсы на лепшых мастакоў. І ня толькі пісьменьнікаў, а і наогул: сьпевакоў, цымбалістых, скрыпачоў, жалейшчыкаў, разьбяроў (скульптараў), мастакоў выяўленчага мастацтва (жывапісцаў), апавядальнікаў народных казак і г. д.

Праўда, нічога падобнага да гэтага часу ў такім шырокім размаху нідзе не рабілася. Але нас гэта не павінна пало-

хаць: рабочыя і сяляне як БССР, так і Саюзу ССР пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі праводзяць нячуваную нідзе працу па будаваньню соцыялізму ў аднэй краіне. Працу валатоўную, працу вялізарную. Ці павінны мы спыняцца ў разьвіцьці сваёй пераможнай працы на фронце культурным? Адказ можа быць толькі адзін: ніякія сілы спыніць нас ня здолеюць. Шлях наш адзін —наперад і наперад!

Усё запроэктаванае мною (конкурсы і г. д.) ня выкліча ні вялікіх цяжкасьцяй, ні вялікіх выдаткаў.

Але набягае новае пытаньне: добра, выявілі мы сотні маладых, здольных мастакоў, музык, поэтаў.

Што рабіць з імі далей? Правёў конкурс і ўсё?

Нічога падобнага.

У тым разе, калі выяўленая моладзь будзе мець слабую падрыхтоўку, калі яна вучыцца ў пачатковых школах—на дапамогу ёй павінны прыйсьці популярныя адмысловыя выданьні кніжак і парагнікаў у выбраных галінах, пра якія я пісаў яшчэ ў другім нумары „Чырвонага Сейбіту". Апавядальнікаў народных твораў (бо з большага—яны людзі дарослыя) можна будзе скарыстаць шляхам запісаў ад іх гэтых твораў.

У тым-жа разе, калі гэта моладзь будзе мець падрыхтоўку ў абхваце сямігодкі, яе можна будзе і **трэба будзе** разьмясьціць у адпаведныя тэхнікумы: артыстыя—у тэатральную студыю пры 2-м Беларускім Акадэмічным Тэатры (у Віцебску), музыкі—у музычныя тэхнікумы, мастакі —у Віцебскі мастацкі тэхнікум. А **поэты, а пісьменьнікі?** Вось тут і паўстае новае ў беларускіх умовах пытаньне— аб адчыненьні беларускага літаратурна-мастацкага тэхнікуму.

Справа ў тым, што да гэтага часу бадай на ўсім сьвеце існавала падумка аб непатрэбнасьці адмысловых навучальных устаноў і адмысловай адукацыі для пісьменьнікаў, для мастакоў Слова.

Расійскі выдатны поэта і вучоны В. Я. Брусаў бадай праз усё сваё жыцьцё даводзіў адваротнае. Ён казаў, што аднолькава з навучальнымі ўстановамі, якія рыхтуюць па некалькі гадоў музык-композытараў, разьбяроў, мастакоў выяўленчага мастацтва, дойлідаў, (архітэктараў, зодчых) павінны існаваць і адмысловыя навучальныя ўстановы для падрыхтоўкі поэтаў і пісьменьнікаў да паглыбленай творчай працы.

На гэта яму, за панаваньнем буржуазіі, казалі: „Выбачайце! Гісторыя даводзіць нам, што выдатныя пісьменьнікі зьяўляюцца раз у эпоху!

Немагчыма зьяўленьне дзесяткаў выдатных пісьменьнікаў. Што вы будзеце рабіць з сотнямі моладзі, якая навучыцца ў адмысловай літаратурна-навучальнай установе некалькі год і выявіць сваю няздольнасьць да творчай працы?"

В. Я. Брусаў адказваў ім: „А з музычных школ **усе** выходзяць выдатнымі музыкамі? А з Акадэмій Мастацтваў **усе** выходзяць геніяльнымі мастакамі?

У кожным разе, буржуазны лад катэгорычна паўставаў супроць падобных поглядаў В. Я. Брусава і яму ўдалося ажыцьцявіць сваю ідэю толькі за савецкай уладай, у 1921 г., калі ў Маскве быў адчынены Вышэйшы Літаратурна-Мастацкі Інстытут. Праўда, дзеля адсутнасьці памяшканьня, гэты Інстытут у 1925 г. зачыніўся, але цяпер у Маскве створана адмысловая камісія на чале з проф. Коганам і проф. Сакуліным, якая выпрацоўвае плян аднаўленьня гэтага Інстытуту.

Украінскія газэты паведамлялі, што і там выпрацоўваецца плян адчыненьня падобнага Інстытуту.

Дзеля якой мэты ўспамінаю я В. Я. Брусава і прыводжу ў прыклад РСФСР і Украіну? А дзеля таго каб давесьці, што пытаньне ад адчыненьні літаратурна-мастацкіх навучальных устаноў не зьяўляецца выпадковым, „высcаным з пальца", а зьяўляецца пытаньнем вельмі а вельмі жыцьцёвым.

Усё-ж, адкажуць мне, застаецца няясным адно: куды, сапраўды, дзенуцца тыя таварышы, якія, правучыўшыся ў падобнай установе (у беларускіх умовах—у літаратурна-мастацкім тэхнікуме) альбо самі пераканаюцца ў сваёй няздольнасьці да **творча-мастацкай** працы, або пераканаюць у гэтым чытачоў і крытыку?

**Усе яны будуць скарыстаны** вельмі а вельмі мэтазгодна: частка, дасканала ведаючы літаратуру, будзе скарыстана ў якасьці выкладчыкаў літаратуры ў сямігодках, частка, пасьля атрыманьня вышэйшай адукацыі, будзе скарыстана ў якасьці крытыкаў, дасьледчыкаў мовы і літаратуры, рэдактароў літаратурна-ма-

стацкіх часопісяй і высока-кваліфікаваных перакладчыкаў з іншакраёвых моваў на беларускую.

Апошняя задача зьяўляецца ня менш паважнай, патрэбнай і ўдзячнай, чым творча-мастацкая праца.

Пытаньне аб адчыненьні на Беларусі літаратурна-мастацкага тэхнікуму сваячаснае, яго можна было-б ажыцьцявіць з наступнага навучальнага году, пры адпаведнай ўвазе з боку партыйных і культурна-асьветных установ, а таксама пры адпаведнай падрыхтоўчай працы (наладжваньне конкурсаў па вёсках і раёнах, утварэньне організацыйнай камісіі зараз-жа і г. д.).

Пытаньне аб падначаленьні творча-мастацкіх сіл плянаваму і сыстэматычнаму ўплыву пролетарскай ідэолёгіі часткова вырашыцца праз тэхнікум і вышэйшую школу, часткова праз сталую крытыку ў часопісях і газэтах, а ў даны момант цераз організаваньне ўсебеларускай фэдэрацыі рабоча-сялянскіх поэтаў і пісьменьнікаў. Не спыняючыся тут на асновах утварэньня гэтай фэдэрацыі, скажу толькі кораценька, што аднačасна і роўна з пісьменьніцкімі організацыямі, ў яе павінны ўвайсьці і колектывы рабочых і сялянскіх корэспондэнтаў. Толькі гэткім шляхам можна будзе правільна і поўна ажыцьцявіць апошняе з зачэпленых мною палажэньняў.

---

# „Сабачы сын“

*(Малюнак)*

## А. Траецкі

У пакоі брудна і цёмна. Лямпачка пужліва паблісквае з высокага абшарпанага камода. Пасярод пакоя доўгі стол, а па куткох, нібы дзеткі ад грознага бацькі, хаваюцца ў цемені змроку маленькія, вузкія столікі.

Цені дрыжаць, мятусяцца і стараюцца прыкрыць сабою няпрыветны выгляд сьцен. І быццам сорамна ім робіцца за гэтыя паласатыя, рыжыя плямы, што так сьмела сябе адчуваюць на брудным, пасівелым ад старасьці, тынкаваньні.

У аднэй сьцяне ёсьць вузенькія, як сабачая канурка, дзьверы, а ў дзьвярах невялічкае круглае ваконца.

І нечае клапатлівае вока, хвіліна ад хвіліны, паказваеццца ў ім.

Высунецца аднекуль, паглядзіць, паморгае, заскаліцца ў тонкую гіранічную ўсьмешку ды зноў схаваецца за сьцяною. А потым чуваць сухі „авечы“ кашаль і ціхае шкрабаценьне пантопляў.

— Э-эх... с-спуш-чу-ў...

Захрыпела, захаркала нібы запхнутае анучаю горла. І вялізны доўгі стол ажно струсануўся сваёю важкаю тлустасьцю.

Нешта заварушылася, забарабаніла пад яго нярухома-спакойнаю істотаю.

— Хаі-і-м... бр-р-а-а-т-т...

І цяжкі вузьляк чалавечага цела з грукатам, выкаціўся на сярэдзіну пакоя. Раскамлачаная, чорная галава намагалася падняцца к верху.

— Р-р-растро-рыбуш-у-ў.

Хрыпаў чырвоны потны твар і доўгія мокрыя вусы імкнуліся адлучыцца ад бруднае накісшае падлогі.

А вока сачыла ў ваконца, алё ўжо ня сьмех, на гіроньня адбівалася ў ім: там быў нейкі раптоўны жах, тонкае прадчуваньне чагосьці нечагосьці ня добрага, чагосьці непакойнага і страшнага. І заморгала часьценька вока, заскакалі доўгія рэдкія вейкі ў мутным запыленым ваконцы.

Пачуўся клапатлівы, сухі, дробны кашаль і вузенькія дзьверы чуць-чуць прачыніліся ў сярэдзіну. Пад тусклы бляск лямпачкі ў цемнай шчэліне дзьвярэй высунулася невялічкая чорная бародка, за ёю войстры гарбаты нос і доўгая тонкая шыя.

Сьперша крышку, потым болей і болей паказалася з-завушака чорная, сухая нізенькая фігура.

— Гэта хто-о, га-а?

— Заварушыўся зноў крыху супакоены на хаце вузьляк.

— Х-то гаварр-ры .. р-растакуюж...

Хрыплы голас абарваўся, замармытаў, захыркаў і цяжкая галава як бязьмен грукнула ў падлогу.

А нізенькая, чорная фігурка, ціцком завярнулася назад і пасьцепваючы кастлявым гарбом моўчкі схавалася за дзьвярыма.

— Не-э-э ўста-а-ну...

Прахрыпаў вузьляк падымаючыся на карачкі. І яшчэ некалькі страшэнных

змаганьняў, з тою чароўнаю сілаю хмелю, што кожную хвіліну гатова абурыць на чалавека ўсю землю, усё жывое і няжывое на ёй, яшчэ адзін магутны выбух волі і каранастая фігура захісталася пасярод пакоя ледзь, ледзь трымаючыся на ўласных нагах.

Глухая, хрыплая лаянка, пахожая на хлябусьценьне, расквасшае гразі, палілася аднекуль з глыбіні нутра. Здавалася што самі сьцены сплёўваюць гэтыя непанятныя словы, і сплёўваюць толькі дзеля таго каб запэцкаць імі падлогу, каб напоўніць ванючым пахам сьпіртовага перагару паветра, каб загадзіць усё што ёсьць яшчэ чыстага ў гэтай кватэры.

Бурчэла і хісталася постаць, хістаўся брудны, расхлёстаны, парваны кажушок на ёй, хісталася на сьцяне шырокая вузлаватая цень яе.

А клапатлівае вока пужліва пазірала ў ваконца, часьценька моргала, заплюсквалася, як-бы разгадваючы нейкі сакрэт, і потым зноў раскрывалася, зноў прагна і бязупынна сачыла за вузлаватаю ценьню.

— Гэта ён казаў ня пі-і... ён, мой сын... р-растакую-ж яго.

Ногі ня зьдзержалі пахіснуліся, заблуталіся адна за другую і фігура ўсёй сваёй цяжкасьцю абрынулася на стол. Тоўстыя жылістыя рукі аблапілі яго як роднага брата, чырвоныя расхлестаныя грудзі, узваліліся на тоўстую, дубовую дошку, узваліліся і запыхцелі, як паравозная печ, густым жорсткім пахам самагону.

І доўгі абплёваны вус бязвольна павісаў да самага стала.

— Хто я?—вырывалася з прадоньняў нутра—хто га-а?—я... я... Максім... стары качагар... бацька пяцё-о-о-х... а яны?—касмо-о-л-цы... сыны э-эх... цьфу..

Тоўсты чорны кулак як капурам бухнуў па стале.

— Та-а-к і іх я-ак прусакоў,

— Максім, Максім зноў высунулася праз шчыліну дзьвярэй чорная бародка.

— Ух, Максімка, бойся ты бога:

— Каго бойса-а га-а?

Гарбатая нізенькая постаць, як чорная здань, у доўгім старым лапсардаку падплыла да Максіма.

— Няхай бы ты, Максімка, ішоў да хаты... што ты сабе думаеш—поўнач на дварэ...

— Куды-ы?..

— Пашоў, пашоў, бо я замкну.

— Каго? э-эх... р-рас-та-а.

Засьцепаліся худыя гарбатыя плечы пад лапсардаком і нізенькая постаць яшчэ прыгнулася ніжэй, яшчэ большы вырас над каўняром горб; прыгнулася і часьценька кашляючы засямяніла па пакоі.

Бегала постаць, бегаў па сьцяне яго цень, гарбаты нізенькі з кручкаватым носам і седзенькаю шчуплаю бародкаю.

— Я бацька-а... я-а гаспадар, як пр-р-у-сакоў падушу.

Глуха бубнеў варочаючыся як цяжкі ком і скрыгаючы сталом, Максім. А ў гэты самы час у маленькае ваконца нахвіліну паказалася нечае другое вока, бліснула ясным агоньком на Максіма, засколілася, змаргнула разы два нібы адганяючы ад сябе нешта лішняе, непатрэбнае і вузенькія дзеверы ў момант распырнуліся пад цьвёрдым і рашучым напорам.

З цёмнае каморкі чуць ні ракам вывалілася на пакой стройная высокая постаць. Шкураная кароценькая тужурка люстрам пералівалася пад тусклым водблескам лямпы. Пералівалася тужурка, пераліваліся іскрыстыя аганькі ў глыбокай бяздоннай шэрані вачэй, і нешта прыветнае, нешта блізкае і роднае адбівалася ў гэтых пералівах, у гэтай стройнай высокай постаці маладога хлапца.

У два, тры крокі падышоў да Максіма і зьверху ўніз пазіраючы на раскамлачаную галаву, што вісела ў бязвольным хістаньні над сталом, прагаварыў ціха, рашуча, спакойна:

— Хадзем, тата, дадому.

Словы былі звычайныя, простыя, поўныя шчырасьці і цяпла. І чорны лапсардак яшчэ болей згорбіўся, яшчэ часьцей засьцепаліся худыя кастлявыя плечы.

— Кхе-кхе-кхе—закашляў дробненька Хаім і падаўся ў цёмны куток; нібы хочучы стаць яшчэ меншым, зусім маленькім няпрыкметным для гэтых шэрых васільковых вачэй. А яны ўсё глядзяць на яго, ўсё нешта як-бы выпытваюць. Не, Хаім тут нічога, яму толькі трэба жыць, трэба даход. І няма куды схавацца Хаіму ад гэтае іскрыстае шэрані; ён горбіцца, залазіць бародкаю ў каўнер лапсардака ды часьценька кашляе:

— Кхе-кхе-кхе...

— Хадзем, тата!

— Паўтарае хлапец кратаючы за падранае труднае пляччо.

Цяжкі вузьляк паварочваецца, налягае мацней жыватом на дубовую шурпатую дошку.

— Хто гэ-та-а?

Хрыпяць доўгія вусы і падымаюцца ўверх ад стала.

— Ты-ы... сы-ын... каца-мол...

— Ну хадзем—нечага тут!

— Я з та-або-ю па-й-ду?.. Хіба ты мой сы-ын?.. Ты-ж с-сабачы с-сын...

Дзьве тонкія маршчынкі лажацца каля губ і шэрыя вочы на хвіліну мутнеюць; як лёгкаю ценьню прабягае па белым чыстым твары нешта балючая, кіслае, непатрэбнае, а потым зноў праясьняюцца вочы і як невялічкія хмурынкі на ясным блакіце неба, зьбягаюць і нікнуць цені.

— Хадзем, тата, дома пагаворым.

Спакойна і мякка льлюцца ціхія словы.

Доўгія вусы падымаюцца кверху, звісаюць ніжэй рыжага шчаціньня барады.

— Кажаш ха-а-дзем-м-м.

З хвіліну мармыча пад вусамі рот. А падсьлепаватыя, туманныя вочы пільна глядзяць у белую плямку на чорным стале. Ї здаецца ім што гэта ні адна, а дзьве плямкі, і што яны ні на адным мейсцы сядзяць, а ўмітусі скачуць па ўсім стале.

Тагды тоўстыя пальцы працягваюцца, намацваюць плямку і моцна шкрабаюць па ёй кіпцямі. Шкрабаюць так, што аж рэха ідзе па пакоі, быццам хочуць выгрызьці яе разам з дубоваю дошкаю:

— Дж-э-р-р-дж-э-рр-р...

Гэты жорсткі, праціўны гук залазіць у самае прэдоньне нутра і там пачынае шалпатаць, пачынае есьці, перагрызаць нешта заскарузлае, бруднае.

— Хаім!..—глухім п'яным голасам пачынае Максім.

— О, Хаім!.. скажы, братка, ці было-о калі на сьвеце—сын вучыць бацьку-у?. Га?. Ї ці гэта мой сы-ы-н?... кацы-мол?.. Гэта сабачы-ы сы-ы-н...

Цёмныя хмурынкі зноў прабягаюць па маладым чыстым твары, мутнеюць на хвіліну іскрыстыя вочы, а па куткох губ лажацца глыбокія тонкія маршчынкі.

—Ну хадзем, тата, годзі ўжо—словы ціхія, з адценьнем глыбіні. Дакранаюцца яны Хаімавага вуха, залазяць пад старэнькі, чорны лапсардак і недзе шаволяць... шаволяць... шаволяць...

— Кхе-кхе-кхе...

Адзываецца ў цёмным куточку Хаім і цясьней зажымае рэдзенькую бародку ў каўнер лапсардака. А худыя, складаныя костачкі плячэй пачынаюць бязупынна сьцепацца на войстрым сухім гарбу.

... Кхе-кхе-кхе...

Быццам адказваюць яны ў такт дробнаму кашлю.

— Хаі-м... Налі бр-раце-э...

— Ну, дык хадзем-жа.

Не адстае сын.

— Куды-ы?

Падсьлепаватыя вочы падымаюцца к верху і доўга, доўга нечага адшукваюць у ясным блакіце другіх вачэй. Потым калматы вус ціха гойдаецца над сталом.

А маці-ж дома?

Вылазяць з пад вуса глухія цягучыя словы. Ї дзьве постаці: адна тонкая, высокая, другая вузлаватая, брудная цесна зьліваюцца паміж сабою.

З грукатам пралазяць у вузенькія дзьверы; потым чуваць як яны праходзяць другі пакой, відаць чапляюцца за нешта і абварочваюць, потым яшчэ рыпяць і адчыняюцца другія дзьверы, бранчаць недзе вокны ад моцнага стуку; а потым усё сьціхае, як-бы на момант перастае жыць.

Тускла падміргвае з камоды лямпачка і чорныя цені бясшумна прабягаюць па сьценах, па столі, па невялічкай гарбатай фігуры Хаіма.

Хочацца Хаіму хуценка бегаць у косікі па хаце, шлёпаць часьценька ададраным пантоплям і ўсё бурчэць і бурчэць сабе пад нос; як гэта ён рабіў калі вылічваў якія нябудзь гішэфты. Тросься дробненька тады Хаімаў горб, трэслася рэдзенькая бародка і старэнькі лапсардак праворна шуршэў у сьлед за падраным пантоплем. А ў пляшывай, прыкрытай аблезлаю ярмолкаю галаве, мільгацелі, як сьпіцы ў бягучым калясе, залатоўкі, саракоўкі, каробка запалак, кусок мыла, голкі і шмат усялякае іншае дробязі. Ї ўсё гэта разам узятае перапляталася нібы зрасталася адно з другім і праз доўгі Хаімаў век нявылазіла з пад ярмолкі.

З ім Хаім, і спаў, і еў і выпіваў паўчаркі „шабесоўкі“.

Але сёньня Хаім другі.

Выплыў ён у доўгім лапсардаку на сярэдзіну пакоя стаіць і барухатаецца. Пужлівыя цені бясшумна пралятаюць над ім; задрыжаць, занепакояцца ад тусклага сьвету лямпачкі, і як баязьлівыя мышы

ад ката, разьбягуцца ад яе па сьценах, па чорнай, сьлязьлівай ад сырасьці, столі.

Хаіму хочацца нешта паразважаць з сабою, але ён баіцца лямпачкі, баіцца гэтых кволых праменьчыкаў, што сыплюцца на яго рэдзенькую бараду, на востры нос, на ярмолку, на зашмальцованы сухі горб.

А лямпачка прыветна падміргвае яму ў твар, заглядае ў глыбокія чорныя вочы.

І чаго яна глядзіць? Што ёй трэба ад Хаіма?

Яна кажа: „Хаім хлус, Хаім злодзей"... Хаім тут нічога... Ён толькі хоча даход, хоча жыць... Ён маленькі чалавечак.

Але цені нешта шэпчуцца, нешта шушукаюць над галавою.

„Хаім хлус, Хаім злодзей"—шаршавець яны з усіх куткоў пакоя.

Кастлявыя плечы нэрвова сьцепаюцца пад лапсардаком, аблезлая ярмолка ўцягваецца нізенька у горб.

— Кхе-кхе-кхе...

Дробны сухі кашаль напаўняе паветра і чорны зашмальцованы горб у апошні раз паказваецца лямпачцы, на парозе вузенькае кануркі—дзьвярэй.

— Кхе-кхе-кхе..

Кашляе Хаімка праворна шлёпаючы пантоплямі па мёрзламу, рыпучаму сьнегу. Бяжыць і прыслухоўваецца. А сьнег скоранька рыпіць, рыпіць, рыпіць і ўсё: „Хаім хлус, Хаім злодзей.

— Не, Хаім чалавек, яму толькі трэба даход, трэба жыць.

Нібы сама марозная ноч шэпча навуха гэтыя словы; шопат яе зьліваецца ў адно з працяжным, звонкім рыпам сьнегу і ўсё гэта залазіць некуды ўглыб нутра, у душу ў сэрца.

Трухае Хаім, трухае збоку нізенькі гарбаты цень яго. На сьценах дамоў, на дашчаной загарадзі, на сьнягу—усюды мітусіцца Хаіма лапсардак, усюды сьцепаюцца пад ім кастлявыя худыя плечы.

— Кхе-кхе-кхе...

Сеецца ў марозным паветры сухі дробненькі кашаль.

Зварачвае Хаімка ў вузкі цёмны завулак, падбягае к высокаму ганку, крэкча, карабкаецца к дзьвярам і як нявялічкі чорны вузьляк укочваецца цераз парог у хату.

— Добры вечар...

Гаворыць ціха, шопатам:

— Кхе... кхе... кхе.

Пакашляў, пасьцепаў сухімі лапаткамі і хуценька пашкробаў цераз пакой к сталу, дзе хісталася ўскалмачаная галава і доўгі вус целяпаўся над самаю дошкаю.

На, Максімка, ды ня губі болей. Шлёпнуў на стол невялічкі чорны капшук. Потым завярнуўся і гэтак-жа сама сагнуўшыся патрухаў назад.

Сухія плечы часьценька сьцепаліся пад лапсардаком.

Мёрзлы сьнег звонка рыпацеў у тахт думкам:

„Хаім чалавек, Хаім ня хоча красьці, Хаім маленькі чалавечак".

———

Доўгі вус нізка павісаў над самым сталом, павісаў і ціха хістаўся ў сонным бязвольлі.

— Маці,—а, маці!—забубнела глуха з пад вуса.

— Дык гэта мой сын, кажаш, прывеў мяне дадому га?

— А то чый-жа!?

Кінула суха ад печы кабета.

— А дзе ён?

— Вось ня даў табе адказу—пашоў куды трэба было.

— Так, так мой сын... мой, а не сабачы... прывёў і сказаў ня пі-і...

І цяньжэрныя, як гліна, думкі захісталіся над сталом. Заварушыўся доўгі шчаціністы вус.

— Маці-і... кармі яго смачна і скажы што я больш ня буду...

Мой сын, мой... а не сабачы. Прывёў і сказаў ня пі-і...

Калматая галава зьвісае над самым сталом і доўгі вус упіраецца ў дошку.

# Калі прыдзе сапраўдны глядач?..

## (АБ НАШЫМ ПЕРШЫМ ТЭАТРЫ)

У. Стракоўскі

Кастрычнікавая рэволюцыя ўтварыла Беларускую Дзяржаўнасьць. Кастрычнікавая рэволюцыя адчыніла шлях да экономічнага і культурнага адраджэньня нашае краіны.

На нашых вачох ідзе адбудаваньне прамысловасьці, узрост сельскай гаспадаркі і нячуванае па свайму размаху, па параўнаньню з мінулым часам, культурнае буданіцтва ў розных галінах. Беларускае мастацтва, у прыватнасьці тэатральнае мастацтва, разьвіваецца шпаркімі крокамі і пачынае занімаць значнае месца ў нашым жыцьці.

Да рэволюцыі не існавала сур'ёзнага Беларускага тэатру. Былі толькі пачаткі тэатральнага мастацтва і яны гібелі, ня маючы магчымасьці разгарнуцца ў варунках царскага рэжыму, удушэньня ўсялякага праўдны нацыянальнага руху, у якой бы галіне гэта не выяўлялася.

Цяпер мы маем першы Беларускі Дзяржаўны Тэатр, які існуе некалькі гадоў. У гэтым годзе пачынае працаваць у Віцебску другі Беларускі Дзяржаўны Тэатр,—малады колектыў, які атрымаў значную падрыхтоўку ў працягу некалькіх гадоў у Маскве пад кіраўніцтвам лепшых працаўнікоў 2-га Маскоўскага Мастацкага Акадэмічнага Тэатру. Апошні тэатр, як кажуць, мае ўсе дадзеныя дзеля таго, каб з пасьпехам шырока разгарнуць сваю працу.

Нарэшце, у нас ёсьць тэатр-перасоўка т. Галубка і шмат аматарскіх драматычных гурткоў. У абшарах тэатральнага мастацтва на Беларусі Рэволюцыя ўзнесла свой вялікі ўклад: мы маем Беларускі Тэатр, як адну з заваёў нашае растучае культуры.

Самае аснаваньне тэатру ў працягу некалькіх гадоў мае вялікае значаньне. Тэатр адбіваў у сваім будаўніцтве ўвесь цяжар умоваў экономічнага і культурнага адраджэньня Беларусі. Агульная адсталасьць, беднасьць цяжкія ўмовы жыцьця, уціскэкопмічны і нацыянальны—у мінулым,—адчуваюцца і да гэтых часоў.

Новае буданіцтва, сапраўднае адраджэньне, пачынаецца ўва ўмовах цяжкай спадчыны—у сялянскай краіне пры слабой праслойцы рабочае клясы, амаль што без прамысловасьці,—дзе з кутхоў цягне моцным духам дробна-буржуазнасьці.

Пры гэткім становішчы першы тэатр ішоў сваім уласным шляхам. Ён браў тое, што ёсьць ужо гатовага ў культуры, якая дасталася нам у спадчыну ад чужых клясаў, пазычаючы форму і зьмест, прыбіраючы лепшыя свае пастаноўкі ў таны фольклёру.

Тэатр выхаваў свой колектыў. У складзе яго яшчэ няма беларускіх Станіслаўскіх, Качалавых, Масквіных, Чэхавых і.г.д. Яны яшчэ прыдуць разам з нашым агульным узростам з гушчы працоўных мас і лепшай інэтлеігнцыі. Але і той колектыў, які ўжо існуе, давёў, што пад кіраўніцтвам добрай рэжысуры, можа працаваць і адказваць сваім задачам.

Рэжысура, шукаючы лепшых шляхоў, яшчэ робіць памылкі, але ўсё-ж такі мае дасягненьні ў сваіх шуканьнях, падыхоўзячы да правільнага напрамку.

Апошнія гады высунулі шэраг маладых беларускіх аўтараў, п'есы якіх прыняты да пастановак. Урэшце, тэатр мае гледача, які даведваецца тэатру.

Гэтыя чатыры элемэнты, узаемнадзеючыя адзін на другога, ня лічачы мастакоў, складаюць, галоўным чынам, твар нашага тэатру.

* * *

Ня можна лаяць наш тэатр за той шлях, які ён выбраў сабе ў першыя гарды, пазычаючы і карыстаючыся культурай чужой клясы, пакуль узрасьце наша рэволюцыйная культура.

Гэта-законы эклёктызм у мастацтвенацыянальных рэспублік, экономічна і культурна адсталых на першых кроках развіцьця нацыянальнага адраджэньня. Тэатр павінен быў вучыцца, падрыхтоўваць сябе, нашчупваць лепшыя напрамкі, каб выявіць нацыянальныя формы культуры.

Тэатр падышоў да гэтага: ён зламыўся як **зьявішча культурнага парадку ў нацыянальных формах**. Гэта значнае дасягненьне за кароткі тэрмін існаваньня беларускага тэатру, але перад ім ва ўвесь рост цяпер падымаецца другая задача: падыйсьці ўплатную да рэволюцыйнага зьместу ў сваёй працы, памятуючы, што **„культура павінна быць нацы-**

**янальнай па форме, пролетарскай па зьместу“.**

Актор і рэжысура, здаецца, гатовы да выкананьня іншай часткі стаячай задачы, ці правіловей хутчэй будуць падрыхтаваны да яе. Чарга за аўтарам і гледачом. Аўтар павінен даць новую савецкую п'есу, якая адбівала-б нашу рэволюцыю тэматычна, ці тыя ці іншыя бакі нашага сучаснага жыцьця. Нам патрэбна добрая савецкая камэдыя „рагочучая і абураная“.

Разам з гэтым, тэатру прыдзецца ўзяць курс да іншага, чым цяпер, гледача, бо той, які наведваецца ў тэатр—ён не сапраўдны глядач савецкага тэатру. Тэатр павінен узяць курс на рабочага-гледача, на гледача-селяніна. Ад гэтага ён ня згубіць і таго, якога мае цяпер-гледача дробна-буржуазнага, але шмат выграе ў ідэалёгічным сэнсе.

Калі тэатр у пэрыодзе шуканьняў ня возьме правільны папрамак на сапраўднага гледача, дык у адворотным-ён згубіць напрамак і пойдзе хібным шляхам. Глядач пацягне тэатр ня ў той бок, які патрэбен нам у сучанны момант.

Кажуць, што ў некаторых тэатрах Нямеччыны Ібсэнаўская „НОРА“ ідзе са зьмененым канцом: Нора вяртаецца да свайго мужа. Буржуа і дробны буржуа не падабаюць глядзець п'есу, у якой жанчына скідвае аковы мяшчанскай сям'і і ідзе ў сьвет. Каб дагадзіць ім,—гэтым гледачом, зьмяняецца канец п'есы.

Кажуць таксама, што нават і ў другім Маскоўскім Мастацкім Акадэмічным Тэатры новая п'еса Файка „Евграф, искатель приключений“ ідзе з зьмененым канцом, каб дагадзіць публіцы. Глядач заяўляе сваю волю.

Гэта добра, калі глядач сапраўдны, але кепска, калі ён ня наш. Уплыў сучаснага гледача, бязумоўна, адбіваецца на нашым тэатры. А паводле гэтага можа вырасьці пропасьць паміж тэатрам і тым сапраўдным гледачом-рабочым і селянінам, які ў хуткім часе прыдзе да свайго тэатру і патрабуе свайго права на відавішча. І гэты час блізкі: ён ідзе разам з пад'ёмам нашага гаспадарчага і культурнага становішча, з паступовым палепшаньнем матар'яльнага становішча рабочае клясы. Разам з гэтым будуць павышацца і культурныя запатрабаваньні рабочай клясы. Ідучы ў кіно, рабочы ня міне і тэатру, і праз кіно ён дойдзе і да тэатру.

Да гэтага часу павінен падрыхтоўвацца наш тэатр і аўтар, маючы на ўвазе новага гледача-гаспадара, які прыдзе і будзе аддыхаць і вучыцца ў сваім тэатру, сьмяяцца і абурацца на блізкія і зразумелыя сучасныя жыцьцёвыя малюнкі.

* * *

Як мы ўжо казалі, у апошні час высунуліся некалькі маладых беларускіх аўтараў, апрача тых, якія ўжо раней лічацца вядомымі пісьменьнікамі. Яны, здаецца нам, павінны ў будучым скласьці рэпэртуар нашага тэатру. Ад іх будзе залежыць даць той пролетарскі зьмест, якога яшчэ недастае ў тэатральнай галіне культуры.

„Вясковы Судзьдзя“ (Кальдэрон), „Жорж Дандэн“, „Мешчанін у шляхецтве“, „Шлюб пад прымусам“ (Мальер), нават „Эльга“ (Г. Гаўптман) і інш. перакладзеныя п'есы лепшых мастакоў, яны ня цікавяць нашага сучаснага сапраўднага гледача савецкага тэатру. Пастаноўкі гэтых п'ес можна тлумачыць толькі здавальняючым, наогул, афармленьнем іх і ў лепшым выпадку, няшкоднасьцю з боку зьместу, што—цярпіма на першых кроках разьвіцьця.

Але здавальняючая форма яшчэ толькі частка працы. Трэба даць таксама здавальняючы зьмест. Вышэйпамянёныя п'есы адпавядаюць толькі пастаноўкамі і зусім не адпавядаюць актыўным зьместам. Дзеля гэтага нашаму гледачу яны ня надта падабаюцца, бо ён жадае большага ад свайго тэатру, дзе-б ён меў магчымасьць паглядзець сваё жыцьцё, убачыць гэроізм барацьбы за соцыялістычную будучыню, пасьмяецца і абурыцца над кепскімі бытавымі рысамі, якіх яшчэ шмат знойдзецца ў жыцьці.

Больш адпавядаюць з рэпэртуару—напрамку тэатру, гістарычныя п'есы, зьмест іх бліжэй нам і больш зразумелы. Па іншых з іх можна і паучыцца нават барацьбе, убачыць расткі свайго, знаёмага, перажыўшым пераможную рэволюцыю, прымаўшым удзел у ёй. Гэтыя п'есы, праўда, пакутваюць часткова адсутнасьцю сцэнічнасьці, мэханічнасьцю некаторых вобразаў і недастачай іх апрацоўкі. У іх ёсьць шэраг недахопаў, але гэтыя нязначныя недахопы дарue пакуль вырасьце наша мастацтва, рабочы і сялянскі глядач, дзеля іх зьместу.

Асабліва стаяць тыя п'есы, у якіх ёсьць спроба даць сучасныя моманты на-

шага жыцьця, „Кар'ера т. Брызгаліна“ (Міровіча), „Лес цёмны“ (М. Ільлінскага), ці адбіць гады рэволюцыі і першыя крокі адраджэньня („Перамога“—Міровіча).

„Перамога“—Міровіча—гэта спроба даць патрэбны зьмест, але яшчэ не дасягненьне да „пролетарскага зьместу“, у сапраўдным сэнсе. Ёсьць часткі ў гэтай п'есе, у якіх адчуваецца фальш, і яна робіць кепскі ўплыў на мастацкасьць твору, а таксама кепскае ўражаньне на рабочага гледача. Гэта патрэбна канстатаваць. Але разам з гэтым трэба вітаць першую спробу на вырашэньне задач, стаячых перад тэатрам у напрамку адбіць гэроічнасьць эпохі. Міровіч яшчэ не рэволюцыйны пісьменьнік. Ён робіць толькі першыя крокі, каб стаць ім. Яму трэба дапамагчы выйсьці на верны шлях, як крытыкай памылак, так і падтрымкай таго, што ёсьць у яго добрага.

Калі „Перамога“ ёсьць спроба адбіць барацьбу, дык „Кар'ера Брызгаліна“—спроба даць „малюнкі жыцьця“. Нам здаецца, што апошняе—адзін з тых добрых намераў, якімі выслана пекла, бо гэта п'еса, у якой ёсьць шмат цікавых бытавых карцінак—беларускага фолькдёру, не адпавядае рашэньню задачы, якую, мусібыць, хацеў паставіць сабе аўтар. Перш-на-перш Брызгалін не мастацкі тып: гэта недарэчнасьць, здарэньне. І дзеля гэтага дробная буржуазія прымае яго ахвотна. Цяперашні слухач якога ў будучым прыдзецца зьмяніць тэатру, на іншага,—задаволены і абураецца: „Глядзіце—хіба-ж мы не казалі, што так ёсьць... бяз нас ня можна будаваць .. во дзе яны якія“... і г. д. Аўтар у п'есе ня справіўся з пастаўленай задачай і яна (п'еса) можа даць, без усялякай карысьці, адваротныя вынікі.

„Лес цёмны“ М. Ільлінскага здавальняючая п'еса. Гэта першы выхад на сцэну маладога драматурга. Яна адбівае жыцьцё пагранічнай вёскі. Цікава разгортваецца інтрыга, глядач у напружанасьці, амаль што ўвесь час да канца п'есы. Быт пададзен, нясумненна, без нацяжкі, уросься ў п'есу. Ёсьць спроба даць малюнак расслаеньня на вёсцы, праўда, толькі—спроба: аўтар блізка і рэзка да вырашэньня гэтага пытаньня не падышоў і яно завуалевана палюбоўнай інтрыгай. Гэроі падобны да жывых. Разам з гэтым, трэба адзначыць, што М. Ільлінскаму трэба яшчэ шмат працаваць над сабою, каб стаць мастаком. Савецкай грамадзкасьці трэба дапамагчы яму ў гэтым.

Калі глядзіш п'есы нашых аўтараў, нявольна ўспамінаюцца словы Марыеты Шагінян з яе „Как я писала Месс-Менд“; „Не с кем общаться писателю! Где наша среда? Люди имеющие что сказать и умеющие ответить,—заняты. Драгоценнейшее, что может быть в жизни, общение,—заперто на тысячу замков, а сверху крышка и на крышке надпись: некогда.

Есьць троха праўды ў гэтых словах для тых, хто яшчэ ня вышаў на верны шлях; да нашых пісьменьнікаў і драматургаў аднесьці цалкам гэтых слоў ня можна, бо яны маюць большую ці меншую магчымасьць супольнічаць Трэба, каб яны задумаліся і ацанілі гэтае супольнічаньне і значэньне яго для іх працы

Тады, у той час, калі прыдзе сапраўдны глядач, рабоча-сялянскі глядач,—аўтар і тэатр будуць гатовы сустрэць яго, як мае быць.

Да гэтага патрэбна рыхтавацца

# На нарадах рабселькораў

(*Уражаньні і заўвагі*)

Я. Шкадарэвіч

Рабселькораўскі рух, зьяўляючыся адной з форм праяўленьня актыўнасьці шырокіх рабоча-сялянскіх мас, выяўляючы сабою культурна-палітычны ўздым гэтых мас, набывае ўсё большы і большы размах у нашай краіне, набывае грамадзка-палітычную вартасьць.

З новага бюджэтнага году амаль што ўсе рэдакцыі менскіх цэнтральных друкаваных газэт вылучылі са свайго штату працаўнікоў для працы сярод рабселькораў і разам з партыйнымі організацыямі, у прыватнасьці з райкомамі КП(б)Б, пачалі плянавую сыстэматычную працу па кіраўніцтву рабселькорамі.

І ў той час, калі мы ня маем яшчэ моцных рабселькораўскіх аддзелаў пры рэдакцыях газэт, як мае напр.: „Гудок“—21 чалав., „Ленинградская Правда“—12 чал., якія-б у штодзённай сваёй працы задаволілі запатрабаваньні рабселькораў, дык такая форма мэтодычнага кіраўніцтва рабселькорамі, як раённыя нарады, набывае выключнае і вялікае значэньне ў справе выхаваньня рабселькораў.

„Беларуская Вёска“ першая ўступіла на гэты мэтодычны шлях кіраўніцтва і выхаваньня рабселькора і пад кіраўніцтвам райкомаў КП(б)Б начала склікаць раённыя нарады.

За сьнежань-люты м-цы г. г. ужо праведзена 9 рабселькораўскіх нарад, а менавіта: у Койданаўскім, Сьмілавіцкім, Чэрвенскім, Пухавіцкім, Смалявіцкім, Заслаўскім (дзе, праўда, рэд кцыя „БВ" ня прыняла ўдзелу) раёнах, Менскай акругі і ў Сьвіслацкім, Жлобінскім і 1-м Бабруйскім раёнах, Бабруйскай акругі.

## Праведзеныя нарады выявілі вялікую актыўнасьць рабселькораў

На пухавіцкай нарадзе стары селькор—культурнік Карнейчык, якому 60 год, заяўляе: „Калі я толькі браўся за паляпшэньне сваёй гаспадаркі, уводзіў культурныя травы і корэньплоды, слухаў агрономаў і іх парадаў, слухаў нашу комуністычную партыю і савецкую ўладу як яны казалі палепшыць гаспадарку, дык з мяне сьмяяліся нашыя сяляне. А калі я палепшыў сваю гаспадарку і сяляне ўбачылі карысьць ад культурнай апрацоўкі зямлі, тады і самі пачалі рабіць так, як і я. Нам, як селькорам, патрэбна павесьці працу так, каб усё працоўнае сялянства імкнулася культурна весьці сваю гаспадарку".

Або:

## Селькор Колас на Чэрвенскай нарадзе:

... „Надыходзяць перавыбары сельсаветаў. Нам як селькорам, патрэбна дапамагчы партыі правесьці гэтыя перавыбары так, каб у сел саветы выбраць працаздольных сялян з беднякоў і сераднякоў. Селькор не павінен баяцца выказаць праўду на выбарчым сходзе, каб гэтым папярэдзіць выбары ў сельсавет непажаданых элемэнтаў".

## Селькораўскі гурток—школа для селькора

Пад такім лёзунгам выказваліся селькоры аб чарговых сваіх задачах. Яны завастрылі сваю ўвагу на організацыі селькораўскіх гурткоў пры насьценных газэтах, на ўцягненьні ў рабселькораўскія шэрагі як мага болей пажылых сялян, на ўцягненьні большае колькасьці сялянак, работніц і батракоў.

— Нам патрэбна паставіць, як чарговую задачу, каб кожны селькор быў застрэльшчыкам у справе організацыі селькораўскага гуртка пры насьценнай газэце,—так зазначае *селькор Працька* на Чэрвенскай нарадзе і дадае далей: „Кожны гурток селькора павінен уцягнуць у рабселькораўскія шэрагі як мага больш жанчын, батракоў і пажылых сялян".

Або:

## Ашаровіч на Смалявіцкай нарадзе:

... „ Калі мы ў сябе з'організуем гурток селькораў, дык тады і насьценныя газэты нашы будуць лепшымі па сваёй якасьці, бо цяпер у нас такое становішча, калі ў насьценную газэту пішуць толькі сябры рэдколегіі, а болей ніхто".

## Пажаданьні селькораў рэдакцыям друкаваных газэт

Справаздача рэдакцыі „Беларуская Вёска" праходзіла пры надзвычайна вялікай актыўнасьці абгаварэньня з боку селькораў.

Запытаньні „Як і аб чым пісаць у газэту"? „Як друкуецца газэта"? „Ці можна пасылаць адзін допіс у дзьве газэты"? Што здараецца з допісамі, калі рэдакцыя іх ня друкуе"? Чаму мала друкуецца вершаў сялянскіх хлапцоў?" „Хто лічыцца селькорамі, хто такі селькор"? Як організавацца селькорам у селькораўскі гурток і як павінен працаваць ён"? „У чым павінна выяўляцца кіраўніцтва і сувязь рабселькора з прокуратурою і партыйнымі організацыямі"? і г. д. і г. д.—сыпаліся з вуснаў рабселькораў.

А наступіць момант спрэчак, 10-25 чалавек запісваецца, каб выказаць свае думкі і пажаданьні рэдакцыям газэт.

— У газэтах трэба друкаваць больш допісаў, артыкулаў пра бюрократызм і валакіту, пра рэжым экономіі, як гэты рэжым праводзіцца на мясцох.

— Рэдакцыі павінны больш уважліва адносіцца да пачынаючага селькора і даваць адказы на яго запытаньні, на нязьмешчаныя допісы, а таксама і на тое, каб допісы селькораў не каверкаліся, не скажаліся.

— У „Беларускай Вёсцы" патрэбна пашырыць міжнародны аддзел, зьвярнуць увагу на яшчэ большае спрашчэньне мовы, даваць больш артыкулаў па вэтэрынарыі і сельскай гаспадарцы, даваць абагульняючыя артыкулы па допісах селькораў і інш.

— Патрэбна, каб рэдакцыі замест гонорар, выпісвалі селькорам рабселькораўскую літаратуру, —так сказалі селькоры Чэрвенскай нарады.

— Нам цікава ведаць ня толькі жыцьцё сялянін, а жыцьцё і працу рабочага. „Беларуская Вёска" павінна падумаць аб замацаваньні сувязі паміж горадам і вёскаю,—так сказалі рабселькоры Сьвіслацкай і Койданаўскай нарады.

## Ці не пераацэньваюць свае поэтычныя здольнасьці?

Самаўпэўненасьць селькораў у сваіх поэтычных здольнасьцях даходзіць нават да таго, што яны (селькоры) абураюцца на старэйшых пісьменьнікаў і поэтаў за тое, што весь іхныя творы друкуюцца ў „Чырвоным Сейбіце" і ў іншых часопісах, нашыя—не.

— Няхай ведае рэдакцыя і нашыя поэты, як Крапіва, Пушча, што і мы можам тварыць; што мы, сялянскія хлопцы—поэты, мо' яшчэ лепш можам пісаць за іх.

— Мы ня гонімся за гонорарам, але хочам, каб нашыя вершы ня гінулі. Мы хочам, каб рэдакцыі давалі адказы і парады пачынаючым пісьменьнікам і поэтам.—такія выступленьні былі на Койданаўскай нарадзе (селькор Вашкевіч) і на Сьмілавіцкай

## Селькор і рэволюцыйная законнасьць

Амаль што на ўсіх нарадах ставіўся даклад аб рэволюцыйнай законнасьці на вёсцы, які таксама выклікаў вялікую актыўнасьць рабселькораў пры абгаварэньні яго.

Выступленьні селькораў выявілі, што прокуратура яшчэ ня так хутка і не ў выстарчаючай меры рэагуе на зьмешчаныя допісы селькораў, як у друкаваных, так і ў насьценных газэтах.

Так, селькоры Сьвіслацкай нарады зазначылі:

— У нас няма сувязі з прокуратураю. Напішаш допіс, які патрабуе тэрміновага расьсьледваньня, а на яго ніхто не адказвае і атрымоўваецца тое, што сяляне кажуць: „Вось напісаў і не памагло". А на Койданаўскай нарадзе селькоры адзначылі, што як прокуратура, так партыйныя і савецкія організацыі павінны больш уважліва абходзіцца з допісамі селькораў, якія пасылаюцца рэдакцыямі на расьсьледваньне, а то былі выпадкі, калі выкрываўся селькор.

Селькоры Чэрвенскай нарады ўсебакова абгаварыўшы даклад аб рэволюцыйнай законнасьці, ухвалілі:

„Селькоры павінны наладзіць з прокуратураю самую цесную сувязь шляхам абмену таварыскімі пісьмамі, а таксама пасылкі ў прокуратуру пісем выкрываючага характару".

„Допісы, зьмешчаныя ў насьценных газэтах, выкрываючага характару тэрмінова пасылаць у прокуратуру на расьсьледваньне".

К Сьвіслацкай, Койданаўскай і Смалявіцкай нарадам былі прыстасаваны выстаўкі насьценных газэт, былі зроблены даклады аб працы рэдколегій і пастаноўцы насьценгазэт[1].

## Хібы ў выступленьнях і прапановах рабселькораў

Адсутнасьць да гэтага часу плянавай сыстэматычнай працы сярод рабселькораў, адсутнасьць популярызацыі пастаноў 3-й Усесаюзнай нарады рабселькораў адбілася на выступленьнях рабселькораў, адбілася на іх прапановах.

Так, напрыклад, селькоры Чэрвенскай і Койданаўскай нарадаў, не разумеючы, што „кіраўніцтва рабселькораўскім рухам належыць рэдакцыям друкаваных газэт і парторганізацыям", ставілі пытаньні і ўносілі прапанову аб утварэньні раённага бюро рабселькораў, якое-б давала дырэктывы ў працы селькораўскіх гурткоў, склікала-б нарады, сачыла за пастаноўкай насьценных газэт і інш.

## „Селькораўскі гурток—каставая організацыя"

На Пухавіцкай нарадзе выявілася, што селькоры, організаваныя ў селькораўскі гурток, утварылі нібы каставую організацыю, замкнуліся ў самых сабе, праводзяць зачыненыя сходы (вёска Дрычын) у той час, **„як селькораўскі гурток зьяўляецца нізавой організацыяй селькораўскага руху, у якім яднаюцца на дабраахвотных пачатках сяляне і сялянкі данага сельсавету ці вёскі, якія пішуць у насьценную газэту і ў розныя друкаваныя газэты і часопісі".** („Асноўныя палажэньні" аб гуртку селькораў).

Апрача селькораў, у селькораўскі гурток могуць уваходзіць і прымаць удзел у яго працы ўсе жадаючыя (хаця-б і ня пішучыя) работніцы і рабочыя, сяляне і сялянкі, як з беднякоў, так і з серадНякоў, і ня толькі партыйцы і комсамольцы, але і беспартыйныя.

## „Нажым на рэдколегію насьценгазэты"

На Сьмілавіцкай нарадзе селькоры ставілі пытаньне, ці павінна ўмешвацца ў працу рэдколегіі комсамольская ячэйка, прычым прывялі прыклад, як комсамольская ячэйка ў м. Дукоры кантралявала заметкі рэдколегіі і рабіла нажым. А гэтага не павінна быць!

**„Партыйныя ячэйкі павінны рабіць уплыў на конструіраваньне рэдколегіі не шляхам назначэньня, а шляхам ідэёвага ўплыву, накіраванага на ўцягненьне ў гэту працу найбольш актыўных, політычна вытрыманых і аўторытэтных у рабселькораўскім асяродзьдзі таварышоў"** (з пастановы ЦК УКП(б) ад 28 жніўня 1926 г.).

## Неразуменьне партыйнага кіраўніцтва рабселькорамі

На Сьвіслацкай нарадзе (Бабруйшчына) селькоры ўносілі прапанову, каб селькораўскія гурткі „у мэтах непасрэднага партыйнага кіраўніцтва" організоўваліся пры партыйных ячэйках, а не пры насьценных газэтах.

Ці правільная такая прапанова? Не, няправільная.

**„Кіраўніцтва комуністычнай партыі ёсьць галоўная і абавязковая ўмова для разьвіцьця рабселькораўскага руху. Толькі пры ўмове партыйнага, г. зн. правільнага пролетарскага кіраўніцтва, могуць быць ажыцьцёўлены задачы рабселькораўскага руху".** (З пастановы 3-й Усесаюзнай нарады рабселькораў па дакладу т. Бухарына).

Але гэтае кіраўніцтва павінна ажыцьцяўляцца праз комуністых, якія працуюць у рабселькораўскіх організацыях.

### ВЫВАДЫ

Рабселькораўскі рух на Беларусі знаходзіць спрыяючыя ўмовы для далейшага разьвіцьця. Ён расьце, пашыраецца, набывае ўсё большую грамадзка-політычную вартасьць. Як колькасны, так і якасны ўзрост рабселькораў ставіць перад партыйнымі організацыямі і рэдакцыямі друкаваных газэт задачу яшчэ больш зьвярнуць увагу на рабселькора, як у справе організацыйнай, так і вучэбна выхаваўчай.

Патрэбна паставіць, як чарговую задачу, каб ува ўсіх партыйных ячэйках была прапрацавана пастанова ЦК УКП(б) ад 28 жніўня 1926 г., а то на мясцох вясковыя ячэйкі і нават некаторыя сакратары райкомаў КП(б)Б не знаёмы з апошняю дырэктываю партыі па кіраўніцтву рабселькорамі.

Нарады выявілі, што ў шырокіх партыйных колах патрэбна популярызаваць прынцыпы і мэтоды парткіраўніцтва рабселькорамі на мясцох.

Слаба ўцягнуты ў рабселькораўскія шэрагі жанчыны, батракі і пажылыя сяляне. Чарговая задача перад рэдакцыямі друкаваных газэт—больш жанчын, батракоў і пажылых сялян у рабселькораўскія шэрагі.

Прокуратура і наогул усе, як партыйныя, так і савецкія організацыі, павінны больш уважліва адносіцца да допісаў рабселькораў, пасылаемых рэдакцыямі на расьсьледваньне, як у справе хутчэйшага рэагаваньня на гэтыя допісы, так і ў справе захаваньня прозьвішча рабселькора.

Рэдакцыі друкаваных газэт павінны яшчэ з большаю ўвагаю падыходзіць да пачынаючых рабселькораў, даваць адказы на іх запытаньні, на нязьмешчаныя допісы.

Рабселькораўскія нарады зьяўляюцца школаю для рабселькораў. На гэтых нарадах рабселькоры атрымоўваць належныя адказы на цікавячыя іх пытаньні.

Нарады выяўляюць недахопы ў працы рабселькораў і намячаюць практычныя мерапрыемствы для далейшага разьвіцьця рабселькораўскага руху.

---

[1]) Аб працы насьценгазэт і аб самых раённых выстаўках газэт і выступленьнях селькораў будзе зьмешчана ў наступным нумары „Чырв. Сейбіта".

# Бібліографія

**„Чырвоная Сялянская Вечарынка".** Злажылі: **П. Ф. Капаевіч, М. Саўрук і С. Баркоўскі.** Выд. Галоўполітасьветы БССР. Менск, 1927. 500 экз. Цана 75 кап.

Вазьмеце любую нашу газэту і паглядзеце аддзел „здарэньні". Убачыце адно: забойства й гвалт, гвалт і забойства. Чым гэта тлумачыцца?

Наша вёска задыхаецца. Моладзь ня ведае, дзе дзяваць энэргію, хоча пагуляць. організуецца вечарынка са скокамі. Перш усё ціха, добра, а потым—пачынаюць бузіць, хуліганіць, і ў выніку—забойства й гвалт. Лаянка ды бойка—вось чым канчаецца амаль кожная вечарынка. Наогул, часта вёска тэрорызуецца адным-двума хлопцамі, якія з-за зухвальства не даюць нікому праходу.

Сьвядомасьць вясковая змагаецца з гэтым. Камсамол, настаўніцтва, перадавая беспартыйная моладзь прыкладвае ўсю сілу да таго, каб зьнішчыць гэту ганебную астачу царскага рэжыму, каб вывесьці маладыя сілы на новы шлях, даць ім магчымасьць разумна скарыстаць свой вольны час. Але часта, ня маючы пад рукамі нічога такога, на што можна было-б абаперціся ў гэтай справе, мэты свае не дасягаюць.

„Чырвоная Сялянская Вечарынка" зьяўляецца першай спробай прысьці на дапамогу тым, хто змагаецца за культурнае жыцьцё вёскі.

Складальнікі задаліся невялічкай мэтай: даць патрэбны матар'ял для замены старое вечарынкі новым зьместам, бо барацьба са старой формай вечарынак у сэнсе іх зьнішчэньня ня дасьць патрэбных нам вынікаў. Трэба замяніць зьмест старое вечарынкі новым, адпавядаючым сучаснасьці.

У зборніку і праводзіцца гэтая мэта, мэта дапамагчы на першых часох організацыі новае па зьместу вечарынкі. Паглядзім-жа, што пададзена ў зборніку дзеля дасягненьня гэтае мэты?

Зборнік мае ўступную агульную частку, інсцэніроўкі і п'есы, апавяданьні, вершы, песьні, частушкі ды гульні, загадкі, фокусы.

Ва ўступнай агульнай частцы зьмешчаны артыкулы аб організацыі агіт і політсудоў, і жывой і вуснай газэт. Артыкулы гэтыя вельмі карысныя. Шкода толькі, што складальнікі не дадалі воднага прыкладу да гэтых артыкулаў, каб быў узор для працы.

Далей ідуць аддзелы: інсцэніроўкі і п'есы, апавяданьні, вершы, песьні. Сярод гэтых аддзелаў самае апошняе месца займаюць інсцэніроўкі і п'есы.

Трэба сказаць, што складальнікі зрабілі вялізарную памылку, увёўшы ў гэты аддзел вершававаную поэму-інсцэніроўку А. Александровіча—„Паўстанцы". Ня трэба было забываць, што адбывацца будзе ўсё ў вёсцы, дзе выключна артыстыя-аматары, дый аматары слабыя, бяз рэжысэра, а вершаваныя пастаноўкі шмат цяжэй ад іншых. І гэта поэма толькі дарма надрукавана ў зборніку: ніхто яе ніколі не паставіць.

Іншыя п'есы вельмі добрыя.

Другія аддзелы падабраны шмат лепей. Праўда, і там ёсьць маленькія недахопы. З апавяданьняў можна было не друкаваць твору Юркі Лявоннага —„Зьмітрок з Загоранкі", бо наступны твор П. Гарбацэвіча амаль гэткі самы на зьместу і лепш напісаны. Аддзел вершаў складзены добра і ў здавальняючым ліку. Песьняў-жа трэба было падаць шмат больш за лік тых нот, якія надрукаваны да агульнавядомых песьняў, як Інтэрнацыянал, Марсэльеза ды інш.

Асабліва каштоўнымі для організацыі вечарынкі зьяўляюцца частушкі, гульні, загадкі, фокусы. Вечарынка будзе мець посьпех толькі тады, калі яна зацікавіць прысутных, а зацікавіць можна толькі весела яе організаваўшы. Частушкі, асабліва пад гармонік, гульні, вопыты—зьявяцца і зьяўляюцца якраз сродкам увесяленьня. Праўда, складальнікі крыху прагледзелі і некаторыя гульні унесьлі па два разы, як напр.: „Карова ляціць" (стар. 200, № 2) і „Птушка лятае" (стар. 200, № 7), але наогул аддзелы гэтыя вельмі карысныя і апрацаваны здавальняюча.

Што мелася на мэце пры складаньні гэтага зборніку? Даць дапамогу тым барацьбітом, якія змагаюцца на культурнай ніве ў вёсцы. Але дапамога гэта будзе толькі на першы час, бо нельга для ўсіх даць агульны напрамак. Нельга заціраць творчасьць саміх вяскоўцаў, трэба ўзбуджваць іх ініцыятыву.

Гэтае мэты складальнікі цалкам дасягнулі. Зборнік „Чырвоная Сялянская Вечарынка" мае даць дапамогу толькі на першыя часы, а потым сама моладзь павінна зьбіраць і выбіраць матар'ял для організацыі вечарынкі. У зборніку матар'ял падабраны, за выключэньнем вышэйнададзеных хібаў, добры. І дзеля гэтага можна сьмела рэкамэндаваць гэты зборнік усім тым організацыям і асобам, якія вядуць хоць якую-небудзь культурную працу на вёсцы. Зборнік дапаможа ім у тым, у чым асабліва цяпер адчуваецца недахоп: у організацыі Чырвонай Вечарынкі.

Да зборніку дададзены: прыкладны плян вясковае вечарынкі і бібліографічны матар'ял, які на далей трэба скарыстаць пры складаньні вечарынак. Абодвы дадаткі вельмі добрыя і каштоўныя, асабліва плян вечарынкі.

Выдадзена кніга наогул добра, хаця сям-там сустракаюцца друкарскія памылкі.

Кошт кнігі пры разьмеры 212 стар. не дарагі.

Я. Б.

---

*Ад рэдакцыі. З тэхнічных варункаў „паштовая скрынка" ў гэты нумары ня можа быць зьмешчана і адкладаецца да чарговага.*

Галоўлітбел № 24701. Адказны рэдактар Р. Шукевіч-Траццякоў.